

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

16 ЖНІЎНЯ 2002г. № 32/4166 КОШТ 310 РУБ.







# Гаспадар «Сасновага бору»




Галоўны ўрач санаторыя "Сасновы бор" Аляксей Хомчык

*Раніца. Цяністая алея вядзе нас між стройных соснаў. Аднекуль чутны шум вадаспаду і дзіцячы смех. Мой суразмоўца — галоўны ўрач санаторыя "Сасновы бор", Аляксей Хомчык.*

*Упершыню мы сустрэліся з Аляксеем Сідаравічам у Вязынцы, дзе адзначалася 120-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. Я шукала людзей, якія ведаюць што-небудзь асаблівае, яшчэ невядомае пра вялікага паэта. І вось тады і натрапіла на Аляксея Сідаравіча з жонкай. Яны калісьці былі знаёмыя з "цёткай Уладзяй" (Уладзіславай Станкевіч, жонкай Янкі Купалы). Я вельмі ўзрадавалася гэтай сустрэчы. На развітанне мой новы знаёмы прызнаўся, што ён галоўны ўрач санаторыя, і запрасіў у госці, каб паказаць сваю незвычайную калекцыю...*

**І вось я ў "Сасновым бары". Мясціна гэтая недалёка ад Мінска, каля 50 км. Але выглядае яна нягорш за розныя замежныя курорты: рака, астравы, пляж, вадаспады і шыкоўны сасновы водар, які пранізвае ўсё наваколле. Мы павольна аглядаем "уладанні" Аляксея Сідаравіча, і я слухаю яго расповед.**

— Працую я галоўным урачом санаторыя "Сасновы бор" ужо дваццаць два з паловай гады. Усё, як кажуць, пачынаў з нуля. З таго часу ў нас шмат што змянілася. Многа пабудавалі: і дарогу асфальтаваную, і гідрапарк, і лячэбны корпус. У нас цяпер ёсць і дыягностыка, і лячэнне, грязе- і водалячэбніцы, падводныя масажы, піццявы бювет (мы прабурылі свідравіну мінеральнай вады ў 85-м годзе). І вось завяршэнне — новы люксавы корпус, які мы будавалі 4 гады. За час, што мы адкрыліся, у нас пабывала ўжо болей 100 тысяч нашых працаўнікоў палёў, рабочых, навукоўцаў, урачоў, настаўнікаў.

( Заканчэнне на стар. 5 )

## КОЛА ДЗЁН

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка з рабочым візітам наведаў Расійскую Федэрацыю. Падчас сустрэчы ў Крамлі прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін і Аляксандр Лукашэнка абмеркавалі тое, што зроблена на шляху да стварэння саюзнай дзяржавы і тое, што трэба яшчэ зрабіць. Прэзідэнтам Расіі было агучана некалькі варыянтаў дальнейшай інтэграцыі нашых краін, адзін з якіх нават прадугледжвае ўваходжанне Беларусі асобнымі абласцямі ў склад Расійскай Федэрацыі на аснове Расійскай Канстытуцыі. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выказаўся катэгарычна супраць такога варыянта. Ён, як і ўвесь беларускі народ, выступае за Беларусь незалежную і непадзельную.***

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

9 жніўня споўнілася 85 гадоў з дня выхаду ў свет першага нумара газеты "Звязда". Шчыра віншуем сваіх калег журналістаў з юбілеем і жадаем ім і надалей плёну на ніве беларушчыны.

### НОВАЕ ТЫДНЯ

У цэнтры Мінска адкрываецца Нацыянальная гімназія. Яна размесціцца ў будынку школы № 23 (праспект Скарыны, 45; насупраць крамы "Лянок"). Да 19 жніўня ўключна ў гімназію прымаюцца заявы ад бацькоў. У гэты ж дзень адбудзецца першы ўступны іспыт — дыктоўка па беларускай мове, 21-га — матэматыка пісьмова, 23-га — руская мова. Матэматыку можна будзе здаваць па выбары — на рускай альбо беларускай мове.

### ЛАЎРЭАТ ТЫДНЯ

Доўгі час прэмію імя Міхаіла Шолахава прысуджалі ў галіне літаратуры, а з нядаўняга часу яна прысуджаецца і за вялікія дасягненні ў галіне мастацтва. Народны мастак СССР і Беларусі, акадэмік Міхаіл Савіцкі стаў першым у нашай краіне лаўрэатам гэтай прэстыжнай прэміі. Віншуем!

### НАВАБРАНЦЫ ТЫДНЯ

У нашай краіне прайшоў чарговы прызыў у беларускую армію. З 12380 навабранцаў 8 тысяч накіраваны на камплектаванне Узброеных Сіл. Сярод прызыўнікоў амаль 7 працэнтаў маюць вышэйшую адукацыю. У гэтым годзе сярод навабранцаў няма ні аднаго, які меў бы судзімасць. Толькі два ваеннаслужачыя адмовіліся прымаць прысягу, матывуючы гэта сваімі перакананнямі. Яны будуць служыць у чыгуначных войсках.

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Урад нашай краіны разглядае варыянты павышэння з верасня гэтага года тарыфнай стаўкі I разраду для бюджэтнікаў. У бліжэйшы час плануецца правядзенне карэкціроўкі бюджэту на другое паўгоддзе, якая дасць магчымасць выканаць планавыя паказчыкі па аплаце працы і выйсці на сярэднегадавы ўзровень аплаты працы ў цэлым па краіне на 105 долараў у месяц.

### ПОСПЕХ ТЫДНЯ

З Шатландыі вярнулася каманда беларускіх вучняў, якая ў Глазга ўдзельнічала ў міжнароднай алімпіядзе па матэматыцы. Сярод сваіх равеснікаў з 84 краін свету нашы хлопцы і дзяўчаты былі ў ліку самых лепшых. Залаты медаль атрымаў Дзмітрый Дудко, сярэбраныя медалі ў Вікторыі Лебедзь і Уладзіміра Колтуна, бронза — у Лены Піруткі. Усе яны прадстаўнікі ліцэя БДУ. Бронзавыя медалі таксама атрымалі Павел Карловіч з Баранавіч і Станіслаў Галаўнёў з Віцебска.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Да пачатку новага навучальнага года засталося два тыдні. У чым жа нашы дзеці пойдуць у школу? На гэта ў кожнага свой адказ і асабліва, калі пойдзеш у краму і зірнеш на цэны. Кошт кашуль для хлопчыкаў вагаецца ад 4 да 9 тысяч рублёў, штаноў — ад 6 да 12 тысяч, пінжакоў — ад 16 да 20 тысяч, дзявочых сарафанаў — ад 10 да 24 тысяч, блузак — ад 8 да 13 тысяч рублёў. Спецыялісты Міністэрства гандлю лічаць, што апрануць у школу хлопчыка-першакласніка абыдзецца ў суму ад 60 да 178 тысяч рублёў і ў 84—200 тысяч — дзяўчынку. Экіпіроўка вучня старшакласніка будзе каштаваць ад 58 да 180 тысяч рублёў, а дзяўчыны — ад 76 да 300 рублёў. Словам, выбірайце як апрануць сваіх дзяцей перад школай і лічыце грошы...

### МАРШРУТ ТЫДНЯ

Упершыню кругасветнае падарожжа на яхце і ўсюдыходзе зробіць беларуская экспедыцыя. Удзельнікі экспедыцыі "Палярнае кальцо" плануюць пераадолець адлегласць па моры і сушы ў 23000 міль за 250 сутак. Старт экспедыцыі на яхце "Інеса" назначаны на 20 кастрычніка гэтага года з Адэсы. Маршрут экспедыцыі праляжа праз Гібралтар, Канарскія астравы, Карыбскае мора, Панаму, Галапагосы, астравы Туамоту, Тонга, Гебрыды, Каковавыя астравы, Мальдывы, Адэн і Адэсу. Паўднёвую, як і сухапутную частку маршруту, удзельнікі беларускай экспедыцыі пройдуць на ўсюдыходзе. Шчаслівай дарогі!

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Пасля таго, як павысіліся тарыфы на праезд у гарадскім транспарце, павысіліся і тарыфы на легкавыя таксі. Цяпер кошт аднаго кіламетра праезду ў таксі з 6 да 22 гадзін складае 550 рублёў (было 450), адной гадзіны прастою пры ўключаным таксометры — 5500 рублёў (раней 4500 рублёў). У начны час, з 22 да 6 гадзін, кіламетр прабегу ў таксі будзе каштаваць пасажыру 825 рублёў (было 675 рублёў), а за адну гадзіну начнога прастою пры ўключаным таксометры цяпер давядзецца заплаціць 8250 рублёў (было 6750 рублёў). Кошт замовы таксі на сённяшні дзень складае 500 рублёў.

### СТЫХІЯ ТЫДНЯ

Нарэшце і ў нашай краіне пайшлі дажджы. Праўда, асабліва радавацца з гэтай нагоды не выпадае... Моцныя дажджы з ураганамі прайшлі і па краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Паводле палярэдніх падлікаў, у сувязі з штармавымі вятрамі і дажджамі ў Еўропе загінула некалькі дзесяткаў чалавек. Тысячы людзей эвакуіраваны. Затоплена Прага і іншыя вялікія гарады Еўропы. Словам, дажджы, як перад пачаткам патопу. І ўсё ж верыцца, што стыхія супакоіцца і жыццё, як і рэкі, увойдзе ў свае звыклыя берагі...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

***13 жніўня 2002 года адбылося чарговае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні XIV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў, на якім аднагалосна вызначана дата з'езда — 24–25 верасня 2002 года.***

Адкрываючы пасяджэнне старшыня аргкамітэта У.В. Гніламёдаў яшчэ раз нагадаў, што гаворка ідзе аб падрыхтоўцы пісьменніцкага з'езда, рашэнне аб якім было прынята Радаю СБП яшчэ 19 сакавіка бягучага года. Наша задача — рэалізаваць гэтае рашэнне рады, паклапаціцца пра тое, каб з'езд прайшоў па-дзеласвому, у дэмакратычных нормах і канструктыўным духу.

Таксама былі абмеркаваны прапановы сяброў аргкамітэта і пісьменнікаў па месцы правядзення XIV з'езда. Вырашана звярнуцца да кіраўніцтва Міністэрства культуры з просьбай, дазволіць правесці з'езд у памяшканні Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Гэтае рашэнне аргкамітэта матывавана тым, што ў год юбілею народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа сама атмасфера знакамітай залы паспрыяе аб'яднанню здаровых сіл, пад сцягам купалаўскай паэзіі дазволіць больш грунтоўна павесці гаворку аб усіх надзённых праблемах нашага літаратурнага жыцця.

Азнаёміўшыся з "рэцэптамі выратавання", прапанаванымі старшынёй СБП В. М. Іпатавай, якія тычацца далейшага існавання саюза пісьменнікаў толькі на "ўнёскі" для "вольнага плавання маленькага апарата СБП" ("ЛіМ" ад 26 ліпеня 2002 г.) аргкамітэт лічыць гэтую "праграму" яўна недастатковай, бо такі падыход не выратуе .

Трэба прызнаць за факт, што мы болей і болей становімся толькі фармальна існуючай творчай арганізацыяй з тае прычыны, што за апошнее дзесяцігоддзе (спачатку Міністэрствам культуры, потым Дзяржкамдрукам, а цяпер Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь) дапушчана шэраг пралікаў у выніку якіх незапатрабаваным грамадствам стаў плён працы прафесійных беларускіх пісьменнікаў. І як вынік — у аб'яднаным выдавецтве "Мастацкая літаратура" чакае выхаду ў свет каля 300 прынятых і ўхваленых рукапісаў будучых кніг.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь як дзяржаўная ўстанова не ў поўным аб'ёме і даволі пасіўна праводзіць дзяржаўную палітыку па падтрымцы нацыянальнай літаратуры, кінуўшы яе на самастойнае плаванне ў віраток так званых рынкавых адносін. Не забяспечаны тыражом дзяржаўны заказ на арыгінальную літаратуру, бо скасаваны тыражныя камісіі, змізарнелі датацыі і аўтарскія ганарары. Створаны шэраг камерцыйных выдавецкіх структур, якія з боку міністэрства карыстаюцца належнай падтрымкай, таму што ім аддаюцца эканамічна выгадныя заказы на літаратуру, у тым ліку падручнікі і кнігі "Школьнай бібліятэкі". Кніжна-таварны рынак рэспублікі захліснуў імпартны вал — больш як на 80 працэнтаў. Не праводзіцца праца з гандлёвай сеткай па прапагандзе беларускай кнігі, яе выданне не стала прыярытэтным для міністэрства. У існуючых умовах беларускай літаратуры не выжыць без кардынальных заступніцкіх рашэнняў Урада і Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У Міністэрстве інфармацыі, якому дзяржавай даручана справа айчыннага кнігавыдання, павінны зразумець нарэшце, што наша нацыянальная кніга мае не толькі таварную, аднак і духоўную вартасць, што яе страты — духоўныя страты жыцця ўсяго грамадства. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, як і Саюз беларускіх пісьменнікаў, павінна стаць самым актыўным прапагандыстам беларускага мастацкага слова, аўтарытэтна спрыяць яго сустрэчы з чытачом. Толькі такі дзяржаўны падыход можа паспрыяць развіццю сучаснага літаратурнага працэсу, зрабіць яго паўнакроўным, вярнуць павагу і любоў нашага народа да творчасці слынных майстроў літаратурнага цэха.

Арганізацыйны камітэт лічыць мэтазгодным вынесці на разгляд XIV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў прапрацоўку і прыняцце адпаведных дакументаў, накіраваных на адраджэнне нацыянальнага кнігавыдання.

У складаны для жыццядзейнасці айчыннай літаратуры час неабходна:

— звярнуцца да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі з прапановай увесці сваім распараджэннем 5-працэнтны падатак на ўсю імпартную друкаваную прадукцыю і выручаныя сродкі накіроўваць на падтрымку нацыянальнага кнігавыдання і выдання літаратурна-мастацкіх часопісаў;

— прасіць Урад Рэспублікі Беларусь сумесна з кіруючымі органамі Саюза беларускіх пісьменнікаў распрацаваць дзяржаўную праграму па падтрымцы развіцця роднай літаратуры;

— патрабаваць у Міністэрства інфармацыі правесці перарэгістрацыю камерцыйна-выдавецкіх структур і ў выдадзеныя ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць уключыць пункт аб падтрымцы прафесійнай беларускай літаратуры;

— прасіць міністэрствы асветы, культуры і інфармацыі ўзгадніць пазіцыі па заказе кніжнай прадукцыі дзяржаўных выдавецтваў для папаўнення існуючай бібліятэчнай сеткі рэспублікі;

— падтрымаць прапанову пісьменнікаў і навукоўцаў аб стварэнні часопіса "Замежная літаратура" на беларускай мове, на старонках якога будуць друкавацца лепшыя творы літаратур свету.

— Саюзу беларускіх пісьменнікаў сумесна з маладзёжнымі арганізацыямі Рэспублікі Беларусь і фондам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва распрацаваць праграму: "Маладыя таленты Беларусі", каб падтрымаць пачынаючых літаратараў, выданне іх першых кніг і правядзенне літаратурных семінараў.

Аднагалосна было прынята рашэнне запрасіць прыняць удзел у рабоце XIV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў:

Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку;

Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Г. В. Навіцкага;

Старшыню Савета Рэспублікі Беларусь Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. П. Вайтовіча;

Старшыню Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь В. А. Папова.

На пасяджэнні аргкамітэта з прапановамі выступілі: Уладзімір Гніламёдаў, Казімір Камейша, Раіса Баравікова, Валянціна Коўтун, Мікола Мятліцкі, Ганад Чарказян, Віктар Праўдзін, Анатоль Бутэвіч, Анатоль Сульянаў, Анатоль Зэкаў і іншыя.

Сябры аргкамітэта звяртаюцца да калег пісьменнікаў з просьбай выказацца па сутнасці вышэйпазначаных прапаноў на старонках штотыднёвіка "ЛіМ", а таксама з трыбуны XIV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Дзеля кансалідацыі ўсіх творчых сіл аргкамітэт лічыць мэтазгодным запрасіць да ўдзелу ў чарговым пасяджэнні, якое адбудзецца 20 жніўня 2002 года, старшыню СБП Вольгу Іпатаву і кіраўнікоў творчых секцый.

**АРГКАМІТЭТ**

***"ЛіМ" працягвае анкетаванне пісьменнікаў. Нагадваем пытанні:***

***1. Ці задавальняе вас стан спраў у Саюзе беларускіх пісьменнікаў?***

***2. Як нармалізаваць работу творчай арганізацыі?***

**Алесь КАМАРОЎСКІ, паэт, празаік:**

1. Не толькі не задавальняе, але і абурае. Давесці ўсё да разладу, да рэзруху, згубіць Літфонд, стварыць групоўкі, перасварыць амаль усіх... Ды і з'езд трэба было праводзіць вясной, калі можна было многае выратаваць, у тым ліку і выдавецтва "Юнацтва".

2. Выбраць сапраўднага старшыню Саюза пісьменнікаў, а ў той жа час і добрага гаспадарніка, які здолеў бы з дапамогай рады вярнуць Дом літаратара, акцыяніраваць дом творчасці "Іслач", падтрымаць маладых і знайсці фінансы для нармальнай жыццядзейнасці новага саюза беларускіх пісьменнікаў.

**Васіль ТКАЧОЎ, празаік, драматург:**

1. Ужо амаль год я не атрымліваю заработную плату як сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Працую на грамадскіх пачатках. А паколькі з Мінска ніхто не цікавіцца, што я ем, чым плачу за кватэру, за што купляю шкарпэткі і чаравікі, то, відаць, саюза і сапраўды няма. І з гэтым трэба пагадзіцца. Набрацца смеласці — і прызнаць... З іншага боку, ніхто не пытае пра гэта, пэўна ж, і ў самой В. Іпатавай. Не пытаўся і ў бухгалтара С. Рыбаковай, якая за сваю шматмесячную працу так і не атрымала грашовага ўзнагароджання. Дзіўна ўсё гэта. Падобна на дзікунства. Але ж так ёсць.

Мне няпроста меркаваць, чаму такая катавасія разгарэлася ў стане кіраўніцтва (застаецца толькі здагадвацца), але трэба дабурыць тое, што амаль разбурана, і пабудаваць нешта новае. Неадкладна. Чым раней, тым лепш. Але — як? За кошт чаго? І дзе ён, той прараб?

2. Жыве надзея, што адбудзецца ўсё ж наш пісьменніцкі з'езд, на якім будуць нарэшце расстаўлены ўсе кропкі над "і". Трэба выбраць такое кіраўніцтва, да якога б я мог прыйсці, калі мне цяжка, нявыкрутна, і сказаць: "Дапамажыце! Паўнейшы бардак! З 1988 г. ніводнай кніжкі не выдаў у дзяржаўным выдавецтве. Жыву далёка ад яго. Парогаў не абіваю. Пасад, якія б садзейнічалі выданню твораў, даруйце, не займаю. Але я член творчага саюза. Вось маё пасведчанне, уручанае шаноўнейшым Максімам Танкам. Чым вельмі ганаруся. Апошняя надзея памерла сёлета. "Юнацтва" мелася выдаць зборнічак апавяданняў старонachак — усяго! — на 30, сабраў нават тыраж, як і трэба было зрабіць, 3000 асобнікаў, а там зноў нейкія аб'яднанні, перастаноўкі... Пшык, адным словам!" А кіраўніцтва саюза суцешаць мяне і паспяшаюцца адразу набраць патрэбны нумар тэлефона...

Мары, канешне. Але хочацца. каб так было. Хоць, па вялікім рахунку, так ужо не будзе. Адхіліліся мы ад той сцежкі, па якой ішлі... Пара намацваць новую. Больш цупкую.

А саюз, вядома ж, патрэбны. А як у вобласці без яго прадстаўніцтва? Гэта ж будзе паўнейшы жах: так засмецяць графаманы нашы бібліятэкі сваімі творамі, што потым нашчадкі стагоддзі будуць вымятаць той друз мётламі. А ўяўляеце, як будуць лезці яны ў школьныя класы і чым забіваць галаву дзятве? Вольнаму ж — воля...

Таму трэба тэрмінова ратаваць не толькі наш прафесійны саюз, але і сітуацыю!

# Угодкі песняра

Хуткаплыннасць чалавечага жыцця найбольш усведамляецца, калі прыходзіш на могілкі і чытаеш рытуальныя дошкі на помніках — даты нараджэння касуюцца датамі смерці. Але ёсць на Вайсковых могілках Мінска адзін помнік, на якім напісаны ўсяго два словы — Якуб Колас, і гэтага дастаткова, каб узгадаць чалавека, велічная постаць якога стала знакавай у віхурыстай плыні XX стагоддзя.

Жыў і тварыў на Зямлі Паэт, але забрала яго Вечнасць, а Песня — душа яго — жыве і сёння сярод нас. Такі праўдзівы мастацкі вобраз належыць паэту Сяргею Грахоўскаму, які неаднойчы бачыўся з Коласам, ведаў яго.

13 жніўня, у 46-ю гадавіну смерці паэта, пакланіцца яго светлай памяці прыйшлі прыхільнікі творчасці Песняра: беларускія літаратары Генрых Далідовіч, Уладзімір Карызна, Раман Тармола-Мірскі, Браніслаў Спрынчан, Казімір Камейша, Мікола Мятліцкі, навукоўцы Міхась Мушынскі і Уладзімір Содаль, вядомыя журналісты, артысты, супрацоўнікі літаратурных музеяў Мінска, малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч.



*Выступае малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч*



**Ганна ЗАЙЦАВА**

*Фота К. ДРОБАВА*

Раман Тармола-Мірскі

## Два каласы

***Мусіць, угледзеўся***
***ён сонечным ранкам —***
***Красак зямлі і душы уладар:***
***Побач са свежаю***
***хлеба буханкай***
***Будзе пакладзен ягоны дар.***

***Жыта хвалюецца...***
***Сэрца на ўздыме,***
***Сэрца чакала такога даўно...***
***Слаўлю таго, хто***
***абраў сваім імем***
***Колас, напоўнены***
***спелым зярном.***

***Колас красуе — слова паэта,***
***Колас красуе —***
***хлеб зямлі...***

***Першы красуе зімой і летам.***
***Трэба другому — з сонцам палі.***

***Два каласы — дзве праўдзівыя песні***
***Поплеч, як сёстры, ідуць у свет...***
***Колькі вы радасці людзям прынеслі,***
***Колас жытнёвы і Колас — паэт!***

*1968*

•

***Ёсць дабавіць што, нельга адняць***
***Анічога ад дзядзькі Якуба:***
***З яго песняй нам сеяць, араць,***
***Ён падмурак Айчыннага зруба!***
***Ён прадбачыў відушча здаля***
***Неўміручасць геннага слова —***
***Беларуская наша зямля***
***Беларусам спрадвек будзе новай.***
***І для навасці гэтай пясняр***
***Сваё сэрца прыклаў так дзівосна,***
***Што душа замірае ад чар***
***Беларусі зорачна-роснай...***

*13.8.2002*

# Жыццё бяжыць — мы стаім...

У апошнія гады ў мяне стварылася ўражанне, што мы, пісьменнікі, у такім паняцці як саюз творцаў пачынаем усведамляць сябе, бадай, толькі перад чарговым (ці пазачарговым) з'ездам. Як гэта ні крыўдна, але, сягнуўшы разам з усім чалавецтвам у XXI стагоддзе, мы па-ранейшаму застаемся ў мінулым — і нават не ў 90-ых гадах, а яшчэ ў ранейшым, савецкім часе, калі былая наша дзяржава СССР жыла «ад з'езда да з'езда». Ва ўсялякім разе так сцвярджала тагачасная афіцыйная ідэалогія, ды і мы — не будзем адмаўляцца — са сваіх трыбун.

З тае пары многае змянілася ў грамадстве. Нешта — у лепшы бок, нешта — у горшы, але сутнасць, урэшце, не ў гэтым. У любым выпадку жыццё не стаіць на месцы, яно рухаецца наперад нават тады, калі шмат яшчэ хто хоча вярнуць краіну назад, на старыя рэйкі. А куды імкнёмся мы, пісьменнікі? Наперад? У сваіх прамовах і заявах — быццам так. Хоць, праўда, у таго-сяго (і далёка не аднаго!) і прарываецца яшчэ настальгія па былым: маўляў, і выдавалі, і перакладалі, і прэміі ўручалі, і дэкады нацыянальных літаратур праводзілі, і зрэдзь за мяжу камандзіравалі... «Выбраныя класікі» і папраўдзе не былі абдзеленыя ўвагай. Так, яны пры падзеле «вялікага і магутнага» куды больш страцілі, чым набылі. А абсалютная большасць астатніх, так званых шэраговых сяброў пісьменніцкай арганізацыі? Урэшце, і не страцілі нічога, і не набылі — за рэдкім выключэннем хіба.



Дык што рабіць, як жыць і працаваць далей? Спадзявацца на дзяржаву ці толькі на свой талент, альбо на першае і другое адначасова? Пытанняў, адным словам, шмат. А адказаў? Ды і ад каго іх чакаць, калі мы самі сядзім склаўшы рукі? Добра яшчэ што хоць не ляжым у такой жа позе! Але і да гэтага, паверце, недалёка.

Згадайма, колькі размоў было напярэдадні яшчэ, здаецца, зусім «цёпленькага» XIII з'езда і з якім спадзяваннем мы ішлі на яго? Правялі, пагаварылі, паабураліся, выбралі новае кіраўніцтва... І што? Аказалася: не тых выбралі. І вось вырашылі склікаць новы аналагічны форум. Цяпер — пад лозунгам «Далоў Іпатаву!» Не сумняваюся: у старшыні будзе іншае прозвішча.

Ведаю, якое выклічу абурэнне ў стане сяброў Рады Саюза пісьменнікаў, але тым не менш скажу: усе яны павінны падаць у адстаўку разам са сваім кіраўніком. Гэта не рада, на вачах якой, па многіх сённяшніх сцвярджэннях, СБП «прыватызаваўся» адным чалавекам і па сутнасці развальваўся. Дзе вы былі, шаноўныя? Чаму не змаглі сабраць нават неабходны кворум, каб спыніць негатыўныя працэсы на самым пачатку? Скажу больш: такімі сваімі паводзінамі кіруючы орган СБП паставіў пад пагрозу існаванне самой творчай арганізацыі.

Кашу, завараную ў пісьменніцкім асяродку, расхлёбваць нам самім. І тут зусім не важна, хто яе варыў, а каму — есці. На першым плане павінна быць адно: лёс Саюза беларускіх пісьменнікаў як арганізацыі, здольнай займаць сваё пачэснае месца ў грамадстве.

Магчыма, для гэтага і патрэбны плануемы з'езд. Ды і як быць інакш, калі ў рабочым парадку праблемы аказаліся невырашальнымі.

Ні ў якім разе на з'ездзе нельга звесці размову выключна да выбараў старшыні пісьменніцкага саюза. Так, з'езд збіраецца і для гэтага таксама. Але ж ці толькі? Значна больш важна, як мне здаецца, вызначыць прыярытэтныя задачы самой арганізацыі, прыняць праграму развіцця нацыянальнай літаратуры і прапаганды беларускай кнігі на сучасным этапе. І не проста зрабіць гэта рэвалюцыйна, а выпрацаваць канкрэтны план дзеянняў, у якім знайшлося б месца для выкарыстання сіл і пісьменнікаў, і выдаўцоў, і распаўсюджвальнікаў. Больш таго, скіраваць потым усе намаганні на тое, каб гэтая праграма стала дзяржаўнай.

Пісьменніцкі з'езд — усяго вяршыня той агромністай работы, якую трэба правесці аргкамітэту падчас яго падрыхтоўкі, каб выйсці на трыбуну з грунтоўнымі распрацоўкамі, а не нейкімі дробязнымі рэзалюцыямі. Так, можна яшчэ раз сабрацца і пагаварыць пра няўвагу дзяржаўных чыноў да літаратуры, але няўжо тыя адразу пачнуць насіць пісьменнікаў на руках? Паверце: каб вымавіць слова «дрэнна», вялікага таленту не трэба; а вось як зрабіць, каб гэтае слова назусім знікла з нашых размоў-прамоў — тут варта шмат думаць. І перш за ўсё самім пісьменнікам. Бо каб улады нешта для нас рэалізоўвалі, трэба гэтае «нешта» мець і даць ім у рукі. А далей ужо дабівацца, каб там яго не паклалі пад сукно. Дабівацца штодзённа, калі хочаце — штохвілінна. Менавіта такая доля і наканавана новаму кіраўніцтву Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Зрэшты, больш хвалявацца павінен і саюз. Досыць выбіраць у кіруючыя органы па пісьменніцкім стажы і рэгаліях. Трэба пусціць да кіраўніцтва 30- і 40-гадовых, а то яшчэ і маладзейшых. Мы можам і самі зарабляць грошы, аднавіўшы, напрыклад, тое ж Бюро прапаганды літаратуры ці стварыўшы нешта накшталт гэтага (я ў тым упэўніўся на «Беларускай лясной газеце», якая за год з датацыйнай ператварылася ў прыбытковую і з'яўляецца такой ужо чатыры гады). Пісьменнікі-ветэраны, не ўвайшоўшы ў раду, пры такім раскладзе наўрад ці пакрыўдзяцца: будуць сродкі і матэрыяльна падтрымаць іх, і наладзіць вечарыну з нагоды юбілею, і, прабачце, годна правесці ў апошні шлях. Але няхай жывуць доўга. Як і сам Саюз пісьменнікаў. Беларускі, незалежны, адзіны.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

НОВАЕ

# Будзе прэзідэнцкі аркестр

Распараджэннем Прэзідэнта Беларусі ад 6 жніўня Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта даручана стварыць пры Палацы Рэспублікі музычны калектыў. Гэта будзе Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь. Міністэрству культуры даручана ў трохмесячны тэрмін правесці конкурс на замяшчэнне вакантных пасад галоўнага дырыжора і творчага складу новага калектыву.

У нашай краіне ёсць нямала таленавітых музыкантаў, высакакласных прафесійнікаў, адзначаных на міжнародных конкурсах. Пэўна, яны і прыйдуць працаваць у гэты аркестр — магчыма, на зайздрасць артыстам сталічнай філармоніі, будынак якой з-за аварыйнага стану зачынены, вымагае капітальнага рамонту (г.зн. вялікіх сродкаў і часу), што стварае крытычныя варункі для рэпетыцыйнага працэсу і канцэртнай дзейнасці ў наступным сезоне.

Цікава, што ідэя стварэння пры Палацы Рэспублікі ўзорнага Прэзідэнцкага аркестра ўпершыню была выказана... у "ЛіМе"! Калі сённяшні чытач не залянуецца пагартаць газету за 1998 год, дык у нумары за 27 лютага знойдзе інтэрв'ю пад назвай "Сяргей Багданаў, прадзюсер і летуценнік", дзе вядомы мінскі музыкант гэту ідэю і сфармуляваў. Хто ведае: мо тады да яго і прыслухаліся?

Пры канцы восені, пасля завяршэння конкурсу сярод кандыдатаў на пасады аркестрантаў і маэстра, мусяць акрэсліцца творчыя планы маладога калектыву. У кожным разе, новы год Беларусь сустрэне з новым аркестрам.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# Гаспадар «Сасновага бору»



Аляксей Хомчык

(Заканчэнне. Пачатак на стар.1)

**— Ці прыязджаюць да вас лячыцца і адпачываць з-за мяжы?**

— Ужо сталі ехаць з Расіі, Літвы... У гэтым годзе з Германіі некалькі чалавек адпачывала. З Ізраіля прыедуць ў жніўні. Людзі любяць наш санаторый. І вось гэтаму куточку я калісьці прысвяціў такія радкі з нагоды юбілею санаторыя:

*У райскіх куточках зямлі беларускай,*
*Дзе возераў сінь і водар лясоў*
*Працуюць старанна*
*і з поўнай нагрузкай*
*Калгасныя здраўніцы дваццаць гадоў.*

*Нас ведаюць усюды і едуць з ахвотай*
*Да нас у "Світанак",*
*у "Случ", ці "Радон",*
*Бо ведае кожны, што будзе турботай*
*Зімой, як і летам, акружаны ён.*

*Усіх абслугоўваюць сумленна і шчыра*
*Медсёстры, ўрачы, кандыдаты навук.*
*Адкуль не былі вы з пад Брэста,*
*ці Свіра —*
*Усім аддаюць цеплыню сваіх рук.*

*Пад вечар гармонік*
*усе здзейсніць мары,*
*Мелодыяй гучнай збярэ ў карагод,*
*У вальсе ці польцы закружацца пары,*
*І тут для ўзросту няма перашкод.*

*У цудоўных мясцінах*
*зямлі беларускай,*
*Дзе птушкі шчабечуць і гоман лясоў*
*Працуюць як трэба і з поўнай нагрузкай*
*Калгасныя здраўніцы дваццаць гадоў.*

"Вось гэта сюрпрыз! — падумала я. — Не часта сустрэнеш урача, які піша вершы (цяжка быць рамантыкам, калі кожны дзень бачыш на працы суровую рэальнасць)." Захацелася пагаварыць пра паэзію падрабязней.

**— Як даўно пачалі вы пісаць вершы?**

— Яшчэ з дзяцінства, калі быў вучнем сямігадовай школы. Я тады то пісаў, то кідаў. А цяпер ужо, як пастарэў, пацягнула на лірыку. І вось пішу і сумую па тых маладых гадах...

Ах, маладосць, маладосць! Як хутка ляцяць гады. Жыццё мяняецца. Шмат чаго цікавага адбываецца ў 20 гадоў, і ў 40, і ў 65. Але з найбольшай асалодай людзі любяць успамінаць менавіта дзяцінства, нават калі яно было і не зусім ружовым. Вось і Аляксей Сідаравіч непрыкметна паглыбіўся ў падзеі далёкага мінулага.

## ДЗЯЦІНСТВА

— Нарадзіўся я на Слонімшчыне, каля Жыровіч. Дзяцінства было цяжкае. Яшчэ 6 гадоў мне не споўнілася, як пачалася Вялікая Айчынная вайна. І вось тры гады лесу, партызанскіх зямлянак. Голад... Холад... У 44-м годзе нас вызвалілі, і я пайшоў у першы клас. У сялянскай хаце была школа. Але потым там нешта памянялася. Я прыйшоў у школу, сеў, а тыдні праз два толькі здагадаўся, што апынуўся ў другім класе. Мне ўжо тады было 9 гадоў. Нарэшце скончыў 7 класаў Акунінаўскай школы. А дзядзька мой быў доктар, яго ў 42-м годзе немцы расстралялі. Было яму тады гадоў 47—48... Жыўём, можна сказаць, кінулі ў глыбокі калодзеж яго шасцёра дзяцей, жонку, цесця, цешчу. (У гэтым месцы Аляксей Сідаравіч вымушаны быў прыпыніць размову, бо не мог стрымаць хвалявання. Было бачна, што нават зараз, праз столькі год, яго сэрца сціскаецца ад болю.)

І вось... бацька кажа: "Ты добра вучышся, павінен стаць доктарам". Я паступіў у Баранавіцкае медвучылішча, якое скончыў у 55-м годзе. Хацеў адразу паступаць у медінстытут, у мяне і прывілеі былі, бо я добра вучыўся. Але я вырашыў, што хопіць бацьку гнуць на мяне спіну, і пайшоў працаваць. Працаваў на ўчастку, у бальніцы, потым у дзіцячым доме, на "Хуткай дапамозе". І толькі праз 9 год паступіў у медінстытут, які скончыў з залатым ромбам. Быў ленінскім стыпендыятам. Ужо было ў мяне тады двое дзяцей, жонка-настаўніца. Мне прапаноўвалі займацца навукай, але я адмовіўся, бо і так дзяцей сваіх не бачыў: вучыўся днём, а ноччу працаваў на "хуткай дапамозе". Жылі бедна. Накіравалі мяне пасля інстытута ў тую бальніцу, дзе я працаваў фельчарам. І адразу прызначылі намеснікам галоўнага ўрача па лячэбнай рабоце. А праз колькі месяцаў я стаў галоўным урачом усёй бальніцы.

**— Раскажыце пра сваю працу.**

— Я ў Заслаўлі адпрацаваў 21 год. Не было ні аднаго дома, дзе б я не пабываў, працуючы на той "хуткай". Было ўсё. Я бачыў, як прывозіліся цяжка хворыя, як стаялі ўрачы ля іх ложкаў, дапамагалі. І вось адно дзяжурства ў мяне было такое, калі паміраў маленькі наш пацыент... Яму потым стала лепш, ён папраўіўся. А я тады напісаў верш "Детский врач":

*Лежит в пелёнках крохотный комок*
*И жизнь еще как-будто в нем теплится.*
*Скажите, чем скорей разбить замок,*
*Которым смерть готова порезвиться.*

*Глаза как-будто в пропасти какой,*
*Синюшный носик, губки, щеки, тело...*
*Лишь там в груди стучится сиротой*
*Больное сердце трепетно, несмело.*

*А рядом с ним еще одни глаза —*
*То матери с лицом, как скатерть белым, —*
*С которых уже не катится слеза,*
*А взор далекий, тусклый, онемелый.*

*И с этих уст бледнее полотна*
*Слова сорвутся: "Доктор, помогите...*
*О как же, вдруг останусь я адна?".*
*И снова тишина как-будто*
*бы в гробнице.*



*Мороз на окнах, за стеною тишь,*
*Земля покрыта снежною порошей.*
*Ты будешь жить бедовый мой малыш,*
*Ведь жизнь твоя в таких*
*руках хороших.*

*В таких руках, которые не раз*
*За жизнь боролись мужественно, рьяно*
*Когда казалось жизни луч погас,*
*А сердце трепет грезился обманом.*

*Но детский врач стоял, не отступал*
*И вестник жизни — первая улыбка —*
*Была ему наградой, твердо знал,*
*И платой за труды его в избытке.*

Пасля гэтага верша мы крыху памаўчалі. Аляксей Сідаравіч ізноў перажываў гэты эпізод свайго жыцця. Я ж была ўзрушана пранікнёнасцю ягоных радкоў. А дарога тым часам прывяла нас да самога санаторыя. Аляксей Сідаравіч ветліва запрасіў нас да сябе ў кабінет, вельмі просты, без усялякіх, як то кажуць, сучасных "наваротаў". На сцяне я ўбачыла дыванчык з партрэтам У. І. Леніна. Заўважыўшы пытанне ў маіх вачах, гаспадар растлумачыў:

— Вось усе крытыкуюць, асабліва цяперашнія дэмакраты, што Ленін такі, такі, такі... У нашай сям'і было сямёра душ, пяцёра з іх яшчэ жывыя і зараз. Трое з нас атрымалі вышэйшую адукацыю, адзін — сярэднюю, прычым, бясплатна. Ішло станаўленне. Я, прынамсі, стаў доктарам. І вось не ведаю, як мае ўнукі будуць вучыцца цяпер. А тады, я магу сказаць, сацыяльна кожны быў забяспечаны. Цяпер мы проста выжываем з санаторыем, а тады як было: ты толькі будуй, развівай, на табе грошы. І грошай на ўсё хапала: на ежу, на лекі, на зарплату... Я не магу нічога тут сказаць — кожная гісторыя крывавая. У першую, другую сусветныя войны загінула шмат людзей, былі рэпрэсіі. Вазьміце тых дэмакратаў у Расіі, якую яны бойню развязалі ў Чачні. Самі ж дапусцілі да гэтага. Я асабіста супраць забойстваў. Вазьміце Біблію пачытайце. Чалавецтва заўсёды марыць, каб усё было справядліва, каб усе жылі шчасліва, але так не бывае. А я вам так скажу: калі будзеш любіць сваю работу, сваю прафесію, свой калектыў, то будзеш старацца, каб калектыў гэты жыў і працаваў.

## ЯК УСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ

Знаходзіліся людзі, якія зайздросцілі поспеху маладога энергічнага ўрача. Яны няшчадна знішчалі тое, што ён будаваў, ламалі пасаджаныя хвойкі, пісалі на ўказальніках розныя брудныя словы пра яго. Але ён здолеў перамагчы...

**— Як вам удалося пабудаваць гэты цудоўны санаторый?**

Зло, яно скарацечнае. Дабрыня, як кажуць, заўсёды перамагае. Я сам са Слонімшчыны, і мне заўсёды хацелася зрабіць што-небудзь для сваіх дарагіх людзей. Калі я прыйшоў сюды, то мог на ўсё махнуць рукой, нічога не рабіць. Але каб людзі паехалі сюды, палюбілі гэты санаторый, мне трэба было палюбіць яго самому. І так усё пачыналася, ішло станаўленне калектыву. У нас працуе 165 чалавек, з іх 75% — жанчыны, і мне добра з імі працаваць. Яны разумеюць мяне, а я — іх. І я на юбілеі, на святы прысвячаю ім свае вершы.

Я слухаю Аляксея Сідаравіча і бачу, якія выразныя ў яго вочы. Вось яны сур'ёзныя і строгія, а ў іншы момант — добрыя і лагодныя; часам яны поўняцца слязьмі, калі баліць душа, а бывае так, што ў іх з'яўляюцца насмешлівыя гарэзы-іскаркі.

## ЗНАРОК НЕ ПРЫДУМАЕШ

Пачаў Аляксей Сідаравіч з рытарычнага пытання:

— Як нараджаюцца вершы? Тэмы падказвае жыццё, хтосьці на рабоце што скажа, дзесьці ўчуеш на якой вечарыны. Зачэпішся за гэта, і тады лягчэй пішацца. Тут у нас працуе сястра-гаспадыня. Я ў яе браў малако. І вось яна кажа: "Усё, малака няма. Карова будзе цяліцца". Месяц не прайшоў, як яна зноў прыходзіць: "Буду насіць малако". Я пытаюся пра цяля, а яна адказвае: "Няма. Звадзіў мужык на ферму, там гэтае штучнае асемяненне. П'яны, напэўна быў гэты мужык, не ведаю... і тады ў мяне нарадзіўся верш "Штучнае асемяненне".

Пасмяяліся разам, а потым я ўспомніла:

**— Раскажыце, нарэшце, пра вашу незвычайную калекцыю.**

— Я люблю прыроду. І хочацца верыць, што ўсе яе так любяць, як я. Напрыклад, пайду ў лес, каб навагоднюю елку высекчы. Я, можа, іх сто абыду, але знайду такую, якую трэба высекчы, бо яна перашкаджае расці іншым. Калі санаторый будавалі, мне кажуць: "Трэба тут спілаваць дрэвы, бо кран не праходзіць", А я ім: "Ты спачатку пасадзі, як я за 20 год вырасціў, а потым сячы". Філасофская праблема жыцця: чалавек нараджаецца для таго, каб памерці. І захацелася нейкую памяць пакінуць, што я ўсё тут рабіў, будаваў. У мяне стрэльба ёсць, я зімой і ўвосень хаджу па палях і лясах і гляджу. І вось пачалося з таго, што ў адным месцы ўбачыў камень: ляжыць валун, замінае на полі. Я яго прывёз і на ўездзе ў санаторый паклаў. Гэты камень болей 10 кубоў, а калі на тоны перавесці, будзе каля 25 тон. Мы яго адшліфавалі, надпіс зрабілі, што санаторый "Сасновы бор" заснаваны ў 1980 годзе. Табліцу хто-небудзь можа збіць, кінуць, а гэтую глыбу ўжо ніхто не кране. Праз некаторы час я сказаў у адным інтэрв'ю, што мы пабудавалі гідрапарк. Атрымліваю пісьмо. Піша жонка архітэктара: "Разанула слых, што "мы пабудавалі", а гэта ж мой муж праектаваў ваш гідрапарк". Яна ўгадала мае думкі, бо я і сам думаў, як можна ўшанаваць працу таго чалавека. Аднойчы паехаў у кар'ер "Пралескі", і мне дырэктар кар'ера паказаў валун. Добрыя людзі з мармуровага завода дапамаглі яго апрацаваць, атрымалася як кніга. І там вось прозвішча гэтага праекціроўшчыка напісалі... А на трэцім валуне — я ўжо заказаў — хлопцы напішуць усю гісторыю санаторыя, калі ён будаваўся, колькі гадоў, прозвішча міністра, па чыёй ініцыятыве гэта рабілася, усе кіраўнікі трэстаў і трэсты, якія будавалі, усе прарабы, простыя працаўнікі. Гэты камень ужо нікуды не дзенуць, і ўсе будуць чытаць гісторыю санаторыя "Сасновы бор"...

**Кажуць, што чалавек быццам "зараджае" сваёй энергетыкай рэчы, якія ён зрабіў, месца, дзе працуе. Людзі, што наведваюць санаторый, адчуваюць спакой і заміранасць, адначасова бадзёрасць, жыццяздольнасць,якія выпраменьвае Аляксей Сідаравіч. І не толькі волаты-камяні будуць берагчы памяць аб ім. Зберагуць у сваіх сэрцах добрыя ўспаміны дзеці, што плёхаюцца ў фантане, хворыя, што ўсталі тут на ногі, сябры, якія ўпершыню сустрэлі адзін аднаго на адпачынку ў санаторыі. А сам галоўны ўрач марыць пра адно: каб хапіла часу здзейсніць усе планы, дабудаваць, далячыць. І няхай Бог дасць яму здароўя яшчэ на многа-многа гадоў.**

**Падрыхтавала**

**Ганна ПУШЫНА**

*Фота К. ДРОБАВА*



## Служыў і працягвае служыць Беларусі

**Прэзентацыя “Антологии белорусской поэзии” ў двух тамах, што выйшла ў Маскве ўперакладах Генадзя Рымскага, прайшла ў канферэнц-зале Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. На стэлажах былі выстаўлены пяць важкіх паэтычных тамоў Г.Рымскага і публікацыі аб вечарыне ў Саюзе пісьменнікаў Расіі.**

**Перад прысутнымі выступілі паэты, чые творы прадстаўлены ў анталогіі: Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Эдуард Акулін, Сяргей Панізнік, Яўген Пясецкі, Алесь Пісарык. Адзначаліся выдатнае паліграфічнае афармленне, шырокі часавы дыяпазон ад К.Тураўскага, Ф.Скарыны да сучаснікаў, наяўнасць біяграфічных і творчых даведак пра кожнага аўтара. Падкрэслівалася інтэлігентнасць, сціпласць, працавітасць, шматгранная адоранасць перакладчыка, яго мужнасць, бо, нягледзячы на невылечную хваробу, працягваў працаваць над задуманай анталогіяй, якая дзякуючы сям'і з'явілася на свет. Г.Рымскі, будучы сапраўдным рускім інтэлігентам, з глыбокай павагай ставіўся да беларускай культуры і да паэзіі ў прыватнасці, у адрозненне ад многіх сваіх суайчыннікаў, якія адмаўляюць іншым народам у развіцці іх культуры.**

**Ад вучняў і калег па працы ў НАН Беларусі выступілі А.Несянчук і А.Нікіфараў. Нельга не адзначыць такі факт: колькасць падрыхтаваных членам-карэспандэнтам НАН Беларусі, прафесарам Г.Рымскім кандыдатаў навук у галіне кібернетыкі і інфарматыкі павялічылася за апошні год (з дня яго творчай вечарыны ў вялікай зале Дома літаратараў ў верасні мінулага года) на два і такім чынам дасягнула 19 чалавек, двое з якіх сталі дактарамі навук. Ёсць падставы меркаваць, што будуць яшчэ паспяховыя абароны ў яго вучняў.**

**Г.Рымскі працягвае заставацца кіраўніком і настаўнікам высокакваліфікаваных навуковых кадраў. Справядліва і мудра напісаў Г. Бураўкін:**

***Настаўнікі не паміраюць.***
***А аддаляюцца ад нас***
***І зверху строганазіраюць,***
***Як мы вядзем свой рэй і час.***

**Мне ж падумалася: добра, каб з'явіліся вучні і паслядоунікі Рымскага-паэта, якія б і перакладалі і выдавалі творы беларускіх аўтараўгэтак жа годна і бескарысліва, як іх настаўнік.**

**М.САВІК**

## На свяце ў Багушэўску

**У мінулыя выходныя жыхары Багушэўска, што на Віцебшчыне, святкавалі адразу два юбілеі: 100-годдзе свайго гарпасёлка і станцыі. Невыпадкова, відаць, гэтыя падзеі супалі з Днём чыгуначніка: Багушэўск абавязаны сваім з'яўленнем і развіццём пракладзенай тут чыгунцы.**

**Асноўныя святочныя мерапрыемствы адбыліся ў суботу. На цэнтральнай вуліцы і ў гарадскім парку былі разгорнуты шапікі, палаткі і іншыя гандлёвыя кропкі, у якіх прадаваліся цудоўныя вырабы народных майстроў, мясцовых прадпрыемстваў. Цэлы дзень на эстраднай пляцоўцы ў парку выступалі самадзейныя артысты, мясцовыя паэты. На ўрачыстасці прыехалі жыхары суседніх гарадоў, навакольных вёсак.**

**Зусім невыпадкова ад імя аргкамітэта па падрыхтоўцы свята Г. В. Цярэня, які сам родам з Багушэўска, запрасіў у родны горад паэтаў з Мінска — Анатоля Вярцінскага і Паўла Саковіча. Абодва — родам з суседніх Лепельскага раёна і Оршы, а яшчэ іх лёсы, як і Г. Цярэні, тым ці іншым чынам звязаны з чыгункай. Пра гэта і іншае яны расказалі падчас сустрэчы з жыхарамі Багушэўска ў парку. З цікавасцю пазнаёміліся ўдзельнікі сустрэчы з разнастайнай творчасцю А. Вярцінскага і П. Саковіча. Кветкі, поціскі рук і словы ўдзячнасці слухачоў сталі лепшай узнагародай для паэтаў.**

**Н. К.**

# Тэорыя змагання

### ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА

“Швец, жнец і на дудзе ігрэц” — універсал (“чалавек, які валодае разнастайнымі спецыяльнасцямі ў межах сваёй прафесіі”, паводле “Слоўніка іншамоўных слоў” А.М. Булыкі) па-беларуску. Навум Гальпяровіч, які дагэтуль захоўваў вернасць паэзіі, на працягу апошняй “пяцігодкі” відавочна сімпатызуе прозе, не пакідаючы па-за ўвагаю літаратурную крытыку і публіцыстыку. Нават яго “кніжныя набыткі” (дзе кандэнсуюцца надрукаваныя ў перыёдыцы і “прыхаваныя” да часу тэксты) пераконваюць у сур'ёзнасці пісьменніцкіх намераў знайсці найбольш адэкватную форму для ўласнага натхнення.

У 1997 годзе “Мастацкая літаратура” выдала зборнік вершаў Н. Гальпяровіча “Струна”.

У 2001 годзе ў “Бібліятэцы часопіса “Маладосць” выходзяць “Шляхі і вяртанні: Кніга эсэ”.

У 2002 годзе выдавецтва “Юнацтва” выпусціла (“для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту”) паэтычны зборнік “Святло ў акне”.

Тры згаданыя кнігі можна разглядаць як звычайны працяг “творчай біяграфіі” літаратара, пашырэнне аўтарскага “творчага поля” — у дадзеным выпадку, хутчэй *э*валюцыйнае, чым *рэ*валюцыйнае. Аднак пры больш пільнай увазе пачынаеш разумець, што “аўтаномныя” зборнікі не паглынаюцца няпэўна-бязмежнаю мастацкаю п р а с т о р а ю, але аб'ядноўваюцца ў выразна акрэсленую *тэрыторыю* (ідэйна-эстэтычную). Умоўна азначу яе “тэрыторыяй змагання”: пісьменнік нібыта імкнецца перамагчы ў слове і праз слова тое, што па-за межамі гэтай ратавальна-небяспечнай “выспы” паўстае непераадольным, неперамožным.

**“Проза” паэзіі.** Уладзімір Гніламёдаў у кнізе-“нарысе” “Ад даўніны да сучаснасці” (Мн., 2002) вылучае “не менш шасці” мастацка-стылявых плыняў у сучаснай беларускай паэзіі: “лірыка-апавядальную, рамантычную, публіцыстычную, філасофска-аналітычную, мастацка-сінкрэтычную і універсальна-інтэлектуальную”. Калі хто-небудзь наважыцца класіфікаваць і “атрыбутаваць” разнавіднасці **самоты** ў новай і найноўшай айчыннай паэзіі, ён несумненна будзе ўражаны размаітасцю яе адценняў у вершах Н. Гальпяровіча. А калі б сёння прыналежнасць паэта да таго ці іншага “адгалінавання” вызначалася найперш паводле характару (“якасці”) самоты, то аўтар “Струны” і “Святла ў акне” (а яшчэ — “Сцяжыны”, “Брамы”, “Вострава душы”) мог бы вольна пачувацца ва ўсіх “плынях” адначасова.

***Будкі чыгуначнай сілуэт***
***Недзе пад кронамі дрэў адзінокіх...***
***Цёплая сінь краявідаў высокіх,***
***Быццам адтуліна ў чорны сусвет.***
*“*** Будкі чыгуначнай сілуэт...”*
*(зб. “Струна”)*

Лірыка-апавядальныя “пыл, настальгія, халодныя рукі. // Цёплыя фарбы і ціхія гукі” суседнічаюць з рамантычнымі парываннямі: “Без учора не будзе і заўтра. // А без ночы не будзе зары... // Адчуваю высокую зайздрасць // Я да птушак, аблокаў і рыб” (“***Без учора не будзе і заўтра...”, зб. “Святло ў акне”). Публіцыстычная (грамадзянская) самота ў апошніх па часе паэтавых кнігах асмужаная сціплым, ды ўсё ж аптымізмам — плёнам існавання паміж Айчынай і Радзімаю, “паміж дзяўчынай светлай і жабрачкай” (***Жабрачку бачыў: у метро хадзіла...”, зб. “Святло ў акне”). “Філасофска-аналітычны” смутак Н. Гальпяровіча вынікае з неспатольнай зацікаўленасці анталагічнымі праблемамі:

***Птушка ў небе, пад зямлёй чарвяк —***
***Быццам кропкі вызначанага кола.***
***Свет яшчэ нібы дзіцёнак голы,***
***Што апратку не знайшоў ніяк.***
*“***Птушка ў небе...”*
*(зб. “Струна”)*
***На сінім небе рыбы, і звяры.***
***І ціхія шчаслівыя анёлы.***
***А свет вакол, нібы дзіцятка, кволы,***
***Што толькі пачынае гаварыць.***
*“Шагал” (зб. “Святло ў акне”)*

Самота “мастацка-сінкрэтычная” найбольшай напружанасці, экспрэсіі дасягае ў баладах Н. Гальпяровіча (гл., напрыклад, “Баладу пра чужога”, “Баладу пра званочак” у кнізе “Святло ў акне”). А вось інтэлектуальная самота ўвасобленая ў надзвычай “актуальных” словаформах: “...Бо ў шалупінні слоў // Здэвальваваўся голас, з'інфліраваўся крык” (“***Не зманяць толькі рэчка і адзінокі сад...”, зб. “Святло ў акне”).

Пры ўсёй раскошы самотнасці, вершы Н. Гальпяровіча не пакідаюць уражання змрочнасці альбо безнадзейнасці. Само існаванне лірычнага героя складваецца са сцяжын, дарог і шляхоў — імі аблытаная, імі працятая тэрыторыя яго быцця і змагання, таму пэўная мінорнасць паэтычнага светаадчування ўспрымаецца неабходна-натуральнаю. У беларускай мастацкай славеснасці архетыповы вобраз Шляху зазвычай агорнуты тугою; аўтар сцвярджае ўласную творчую індывідуальнасць у межах традыцыі — адсюль і адпаведная танальнасць ягонай паэзіі.

Зрэшты, “фармальная”, вонкавая традыцыйнасць вершаў Н. Гальпяровіча ўгрунтаваная ва ўнутраным (ідэйна-эстэтычным) традыцыяналізме пісьменніка: “Увогуле, чытаючы сённяшнюю расійскую перыёдыку <...>, міжволі ловіш сябе на думцы: літпрацэс у бліжэйшых суседзяў у глыбокім крызісе. Тыя імёны, якія раней складалі гонар сучаснай расійскай славеснасці — занядбаныя, маскультура, андэграўнд паглынулі літаральна ўсё. <...> Сумна і нецікава. А ў нас, у “балоце”, яшчэ толькі марыць пра гэта. Дзякуй Богу, яшчэ пішуць літаратуру і Брыль, і Быкаў, і Пташнікаў, і Разанаў... У нашай “адсталасці” — нашая надзея” (з *“Адлюстраванняў”* — кніга “Шляхі і вяртанні”).

Такім чынам, перспектыву і айчыннага прыгожага пісьменства, і нацыянальнай культуры наогул Н. Гальпяровіч звязвае са своеасабліваю *эвалюцыяй традыцыі*. Самыя ўдалыя ягоныя вершы, як мне здаецца, належаць да пейзажнай лірыкі, дзе апавядальнасць — падмурак філасафічнасці, а ““традыцыйная” прастата... стылістычнага малюнка верша”, якую У. Гніламёдаў лічыць “адною з характэрных рыс у мастацкім мысленні многіх беларускіх паэтаў”, сапраўды становіцца прыкметаю мастацкай сталасці:

***Графічны ліст заснежаных палёў!..***
***Дзе з белізной мяжуюць дрэваў цені,***
***Дзе ціхіх рэчак хітрыя спляценні,***
***Дзе б'юць крыніцы***
***праз таўшчэзны лёд.***
*<...>*
***Пяшчотна ляжаш мне на сэрца ты,***
***Зямлі маёй бясхітрасны малюнак —***
***Мой лёс, мой боль,***
***мой радасны ратунак***
***Ад горкага палону нематы.***
****Графічны ліст заснежаных палёў!... (зб. “Святло ў акне”)*

Зазначым, аднак, што згаданая “прастата” часам *ускладняецца* рытміка-інтанацыйнымі збоямі: “І заб'ецца ў велічным суладдзі // Той матыў, што выгукне душа, // І засвеціць сцішана ў паглядзе // Песня, што *нарадзілася* спярша” [тут і далей вылучэнні ў цытатах мае. — ***І.Ш.***] (“***У самотнай роспачнай хвіліне...”, зб. “Святло ў акне”). Суладдзе вершаваных радкоў калі-нікалі парушаецца нематываванаю таўталогіяй: так, у вершы “***Кларнет бліскучы лёг у футарал...” (зб. “Струна”) побач з апошнімі радкамі другой страфы — “І дзень мой пачынаецца з ліста, // Калі чакае зноў паўстанак нейкі”, — пачатак трэцяй страфы: “Ён таямнічы, бы чужы сусвет, // Ён цягнікі з надзеяю чакае”. Некаторыя паэтычныя вобразы Н. Гальпяровіча бянтэжаць немагчымасцю іх “дэшыфрацыі”: цяжка зразумець — ці то перад табою адмысловы мастацкі “код”, ці то аўтар ахвяруе сэнсам выказвання дзеля захавання фармальнай зладжанасці вершавання:

***Так чароўнае замкнецца кола,***
***Што мацней за ўсё, што ёсць наўсцяж.***
*“***У самотнай роспачнай хвіліне...”*
***...І пасткі мудрагелістыя нас***
***Усюды на шляху сваім страчалі.***
*“***Я каюся, бо ёсць за што і мне...”*
***Свеціць зорка ўначы.***
***Толькі кроплі дажджу за акном.***
***І трывогу з душы не здымае***
***цяжар той паныла.***
*“***Ты чаго пакідаеш істоту,*
*каханне маё...”*
*(зб. “Струна”)*
***...І сцежка ціхая ў траве,***
***З якой было, што след згубіўся...***
*“***Лясоў і возера дакор...”*
*(зб. “Святло ў акне”)*

Між тым, “Святло ў акне” — у параўнанні са “Струною”, — успрымаецца кнігаю больш цэльнаю, “празрыстаю” ў мастацкіх адносінах. Хаця вобраз, які даў назву зборніку 2002 года, выспяваў шчэ ў тых вершах, дзе звінела “самота тонкаю струною”, дзе “бездані глыбокае вакно”.

У “Струне” пазначаецца важнасць вобразаў (шляху, цягніка, крыгалому і інш.), якія ў наступнай кнізе набываюць важкасць, становяцца лейтматыўнымі, стрыжнявымі. Гэтаксама матывы адзіноты, усюдыіснасці здрады (“Столькі здрады і маны, // Столькі пыхі і зласлоўя!.. // Нават шчырыя сумоўі, // Як уцёкі ад віны” — зб. “Струна”) з цягам часу згушчаюцца ў вобраз-настрой уцёкаў “ад ілжывых, напышлівых слоў”, ад “няшчырасці прамоўленых слоў”, ад “энергіі шалёнай” слоў “здэвальваваных” — у свет “вечных соснаў”, у “туманную далеч снягоў”, у “празрыстасць першых халадоў”. У вершах Н. Гальпяровіча “цывілізацыя” асэнсоўваецца як антыпод “прыроды”: іх супрацьстаянне не “дэкларуецца” аўтарам, нават не прамаўляюцца самі паняцці, аднак увесь сусвет для лірычнага героя становіцца полем бітвы паміж ілюзорнасцю чалавечага жыцця — і існым быццём прыроды.

“Пантэізм” Н. Гальпяровіча ў кантэксце беларускай мастацкай свядомасці паўстае з'яваю традыцыйнаю. Так, “рэфрэн” аднаго з вершаў “Струны” (“Покуль ёсць мы, то з намі да скону // *Зоркі, птушкі, лісцё і трава”*) відавочна перагукаецца з ушанаваннем “жыта, соснаў і валуноў” у Ніла Гілевіча (згадайма аднайменны зборнік). Лірыка “Святла ў акне” зазначае трыумф філасофскай пейзажыстыкі ў творчасці Н. Гальпяровіча. Атаясамленне прыроднага з боскім, нараджэнне (ці адкрыццё) у іх злітнасці іншага сусвету — бачыцца шанцам, надзеяю на паратунак і чалавеку сённяшняму (постіндустрыяльны, постмадэрны, постпост-шчэ-які-небудзь — ён і не ЧАЛАВЕК ужо, а “рэшткі” — пасля-чалавек). Я-герой Н. Гальпяровіча на ўласнай тэрыторыі змушаны наноў сцвярджаць сваё права быць часткаю тонкага, існага свету, і быць самім гэтым светам:

***Я — вечар. Халодны вечар,***
***Дзе цэркаўкі белы лік***
***Самотна глядзіць у вечнасць***
***Праз кроны яблынь і ліп.***
*<...>*
***Кароткі, як захад сонца,***
***Тужлівы, як птушкі крык.***
***Я веру, што я бясконцы,***
***Пакутны, нібыта крыж.***
*“***Я — вечар...”*
*(зб. “Святло ў акне”)*

Бязмежнасць усіх магчымых сусветаў, тым не менш, роўнавялікая для пісьменніка “вечнасці над Дзвіной”: “Зноў пад ранак так салодка сніцца // Сціплы горад мой — жыцця сталіца”; “Мой горад — мой анёл, старэйшы брат!.. // Калі б гады я ўсе вярнуў назад, // Я зноў бы выбраў строму над Дзвіной // І ціхі, і драўляны горад мой”. Лірычны герой “Струны” (працытаваныя радкі — адтуль) паяднаны з “дзвінскаю стромаю” нейкаю метафізічнаю і адначасова інтымнаю повяззю, калі ўжо немагчыма зразумець, дзе заканчваешся ты і пачынаецца тое, што вакол цябе. Я-герой “Святла ў акне” спалучае лірычна-інтымныя інтанацыі згадак пра “***Ціхі полацкі вечар”, пра дымок з блізкай Палаты, “пахілёны крыж” на дзвінскай выспе і рудога сабаку Лорда (верш “***Ізноў цягнік памкнуўся на Парыж...”) —

## Беларусы ў Чэхіі: архіўная спадчына эміграцыі

Пяшчотным і ціхім, па-сапраўднаму летнім выдаўся ў Мінску гэты дзень... З самай раніцы ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адчувалася незвычайная атмасфера святочнасці, паэтычнай узнёсласці, таямнічасці. Ля старадаўняй гарматы перад уваходам — каляровы плакат: вядомы краявід Залатой Прагі, над ім словы: "Ёсць на карце месца..." Найбольш адукаваныя адразу ж пазнавалі радок з паэтычнага цыкла Марыны Цвятаевай "Вершы да Чэхіі". Так пачынала працу унікальная выстава "Грамадска-культурная чыннасць беларускай і расійскай эміграцыі ў Чэхаславакіі. 1921-1938". Бачыў як некаторыя з наведвальнікаў не ішлі да касы, а затрымліваліся ў фае і пачыналі гутарыць з тымі, хто атрымаў асабістыя запрашэнні. А такіх было шмат: супрацоўнікі архіваў і музеяў, навукоўцы, дыпламаты, пачэсныя госці, карэспандэнты. І кветкі, кветкі...

Прымалі віншаванні арганізатары выставы: Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. У падрыхтоўцы экспазіцыі таксама ўдзельнічалі: Белдзяржархіў кінафотафонадакументаў, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, прыватныя калекцыянеры: Сяргей Панізнік, Мікалай Трус, Яўген Чырыкаў-унук.

"Імяніннікаў", такім чынам, было нямала, але кожны з прысутных адчуваў гордасць, бо не было дагэтуль на Беларусі гістарычных выстаў такога ўзроўню. Праект — вынік творчага і прафесійнага ўзаемадзеяння Федэральнай архіўнай службы Расіі і Нацыянальнага цэнтра па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь. Адкрыў выставу старшыня цэнтра Уладзімір Іванавіч Адамушка. Ён адзначыў, што экспазіцыя падрыхтавана на базе архіўных комплексаў, якія да апошняга часу былі недаступнымі для гісторыкаў і шырокай навуковай грамадскасці. Напрыканцы кіраўнік архіўнай службы Беларусі адзначыў вялікі ўклад у развіццё нацыянальнай культуры нашай краіны беларускай эміграцыі ў Чэхаславакіі: "...Тут фарміравалася, пачынала свой творчы шлях, атрымлівала першае прызнанне цэлая плеяда вядомых культурных, навуковых і грамадскіх дзеячаў. У сярэдзіне 20-х гадоў XX стагоддзя Чэхаславакія стала галоўным цэнтрам грамадскага і палітычнага жыцця беларусаў за межамі сваёй зямлі".

У адказ з прамовай выступіў Часовы паверены ў справах Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Фойцік, які падкрэсліў, што ў 1920—1930-я гады толькі што маладая самастойная Чэхаславацкая рэспубліка неаднаразова выказвала салідарнасць і падтрымку народу Беларусі ў змаганні за нацыянальныя і сацыяльныя правы. Краіна давала прытулак беларусам-эмігрантам, дапамагала ім знайсці працу, атрымаць вышэйшую адукацыю, захоўваць сваю нацыянальную і культурную адметнасць, развіваць літаратуру, мастацтва і выдавецкую дзейнасць на роднай мове.

Маштабы выставы ўражвалі. У каталозе пералічаны 447 экспанатаў, амаль палова з якіх узяты з беларускіх сховішчаў і збораў, астатнія захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі. Дзякуючы гэтым матэрыялам, мы можам у агульных рысах зрабіць рэканструкцыю таго, чым жылі беларускія і расійскія дыяспары ў міжваеннай Чэхаславакіі, прасачыць за шляхамі іх узаемадзеяння.

Экспазіцыя была зроблена з густам. У дадзеным выпадку нельга казаць пра "мёртвыя" рэчы і аркушы паперы. Аўтографы знакамітых дзеячаў, фотаздымкі, мастацкія творы, друкаваныя выданні, рукапісы — перад гледачом сапраўды разгортвалася панарама жыцця, цікавая іншая рэчаіснасць выступала праз шкло стэндаў. У першы дзень працы выставы "эффект прысутнасці" быў надзвычайна моцным, бо тады ў зале дэманстраваўся дакументальны фільм, змантіраваны з аматарскіх кінаматэрыялаў, якія былі зняты ў Чэхаславакіі ў 1929-1935 гадах інжынерам У. Паповым.

І яшчэ адна важная асаблівасць: выдадзены вельмі грунтоўны каталог выставы, аб'ём якога — больш чым сто поўнафарматных старонак. Адказны складальнік — дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь В. Селяменеў. У кнігу ўвайшлі звароты кіраўнікоў архіўных служб Расіі і Беларусі з нагоды выставы, артыкулы па пытаннях жыцця беларускай і расійскай дыяспар у Чэхаславакіі, пералік экспанатаў з дакладнымі звесткамі пра месца захоўвання кожнага, што ўяўляе сапраўдную каштоўнасць. Гэта — унікальная тэматычная распрацоўка архівістаў па пытаннях дзейнасці беларускай і расійскай эміграцыі ў Чэхаславакіі 1920—1930-х гадоў. У каталозе шмат якасных ілюстрацый. Наклад выдання ўсяго 100 асобнікаў, таму відавочна, што ў хуткім часе яно стане бібліяграфічным рарытэтам.

Ілья КУРКОЎ

ПАЭЗІЯ

### Алесь КАСКО



## З Максімавай кніжкаю

*Пад плюскат нямоўкны дажджу*
*прачнуўся апоўначы*
*і пад лямпай трымклівай сяджу*
*вераб'ём у падстрэшшы —*

*двашцаціпяцігадовага Багдановіча*
*чытаю, на памяць вучу,*
*за Максіма старэйшы*
*роўна на гэтулькі ж —*
*на дваццаць пяць!..*

*Не давучыць яго, не дачытаць.*

## Балада берага

*Бераг той у смузе...*
*Хоць аднойчы б даплыць,*
*каб здрадліўцаў не мець,*
*каб здрадліўцам не быць.*
*Быць самім па сабе,*
*быць сабою самім,*
*нежаданым для ўсіх,*
*непатрэбным зусім.*

*Там, у краі чужым,*
*там на краі зямлі,*
*толькі птушкі жывуць,*
*матылі ды чмялі.*
*Там, на сцежках глухіх,*
*толькі звера сляды,*
*там будуюць мурашкі свае гарады.*

*І рашаюся я — і бягу праз траву,*
*і кідаюся ў хвалі — плыву і плыву*
*дзень і ноч, ноч і дзень;*
*знемагаю — але*
*адыходзіць той бераг далей і далей.*

*Выбіваюся з сіл і на волю ракі*
*аддаюся... "Слімак,*
*ты не першы такі!"*
*Я на беразе гэтым; ляжу на пяску*
*і цалую я ногі свайму рыбаку.*

●

*Што трэба вяртанцу? Палоска*
*былой вечаровай зары*
*ды ціхая ў прыцемках вёска,*
*ды шолахі ў родным двары.*

*Нікуды цяпер не спазніцца,*
*дык стой і ўбірай гэты свет,*
*які, хай ты быў чужаніца,*
*не страціў ранейшых прыкмет.*

*Нябёсы ўсё тыя ж, і зоркі,*
*і вецер, і жыта; і нат*
*у свет гэты выпусціў зёлкі*
*яму не ўласцівы асфальт.*

*Рака абмялела, ды бераг*
*збярог чараты і груды,*
*дзе ты не ўсвядомлена бегаў*
*і збег — неўсвядоміў, куды.*

*Не ўсіх дагукаешся блізкіх,*
*спаткаеш далёкіх не ўсіх,*
*аднак жа ўзгадаеш да рыскі,*
*прысніш іх, нібы ўваскрасіш.*

*Свет родны — і літасць, і лучнасць:*
*бач, з позняй часіны, вярсты*
*вярнуў, даў адчуць неўміручасць,*
*якой калісь выракся ты.*

●

*Удаў гадоў нікім не папярхнецца;*
*падвольны непазбежнаму суду,*
*з нас кожны думае: "І я ўвайду*
*аднойчы ў спрат,*
*што вечнасцю завецца".*

*І горка-горка сэрца ўстрапянецца,*
*і змусіць верыць: "Зменшу тым бяду,*
*што на алтар свабоды пакладу*
*непадуладнае нябыту сэрца..."*

*Чакаць і недарэчліва, і смешна,*
*што будзе сытай*
*некалі бязмежнасць,*
*што ў прорву спыніцца*
*людзей сыход.*

*Ды ёсць жа воля! Мне не надзівіцца,*
*як цэлы край, як добры мой народ*
*да ўдава сам наровіць не спазніцца...*

●

*Было ўжо... Месяц без прытулку,*
*і зорка сіняя між хмар,*
*і ў сцішаным старым завулку*
*святлом пазвонвае ліхтар.*
*Святлом і лісцем; пазалотай*
*яно спадае ў змрок, нябыт...*
*І сведчыць даўняя самота,*
*чым непаўторны краявід.*
*Яму да болю не хапае,*
*каб гэтым лісцем, як тады,*
*ты, недаступная, ступала*
*і пакідала назаўжды*
*мяне, і месяц без прытулку,*
*і зорку сінюю між хмар,*
*і ў сцішаным старым завулку*
*няяркай звонкасці ліхтар.*

## З усяночнае

*Купкай, чародкай, гуртом*
*ідуць прасветленыя, балазе*
*высока-высока —*
*працягам малітвы —*
*нарадзіўся гэтаю ноччу снег.*
*Бязважкі, амаль што самое святло,*
*ён кладзецца на шапкі, на хусткі,*
*на вейкі — яднаецца*
*з промнямі позіркаў*
*і ўвачавідкі робіць старых маладымі,*
*а хлопцаў, дзяўчат — пастаслымі.*
*Яны ціха ідуць; нават юная самая —*
*з гарэзлівымі кудзеркамі валасоў*
*і стрыманымі смяшынкамі —*
*моўчкі туліць да маленькіх грудзей,*
*да цнатлівага вабнага твару*
*пульхны і лёгкі снегу камяк,*
*нібы спавіванага сына...*
*Ідуць пада мною, пад адталым акном*
*купкай, чародкай, гуртом*
*і нясуць падсінены раніцай снег —*
*блізкае мне, але недасяжнае неба.*

## Насалода ад палявання

*Стары паляўнічы ні разу*
*не ступіў у гушчар запаведніка,*
*акрэсленага прасекамі,*
*назіральнымі вышкамі*
*і дзе-нідзе дротам.*
*Па той бок палявалі хаўруснікі —*
*з ліцэнзіямі і без іх,*
*а ён заставаўся на варце па гэты.*
*Слых яго лашчылі і вярэдзілі*
*лямант сабак,*
*і людское галёканне,*
*і трэск галля ад звярынага бегу.*
*О, ён меў слых,*
*ён быў зноў малады!..*
*Часам звер, наляканы адтуль,*
*слепа шукаў паратунку*
*за адведзенай зонай —*
*да непарушнай мяжой запаведніка.*
*І тады ён страляў —*
*спакойна і трапна,*
*бы калісьці, як быў малады...*
*За ўцёкі.*

●

*Ступаецца асцярожна:*
*плюскоча пад снегам вада.*
*Снег снегам: растане. А вось жа,*
*апошняга снегу шкада.*

*Дажджом паліваны, грамнічны*
*і плаўлены сонцам не раз*
*змушае быць меланхалічным,*
*настрой непрадвесні прыпас.*

*Мне блізкае ўсё, што сыходзіць.*
*Я сам адчуваю мяжу.*
*Блажэю. Бліжэю прыродзе.*
*А людзям?.. Як знаць. Не скажу.*



Фота К. ДРОБАВА

ПРОЗА

# АБРАЗКІ

## ІМГНЕННІ СВЕТЛЫЯ

Цяжка сказаць, колькі гадоў мне было — паўгода, год, паўтара... У адзін светлы момант я адчуў сваю прысутнасць на белым свеце: убачыў вочы, з якіх праменілася дабрыня — вочы бабулі Веры. Радасці не было краю: бабуля, мілая, родная, бясконца дарагая!.. Яна, удава-гаротніца, ніяк не магла нацешыцца ўнукам-першынцам. Я адчуваў усёй сваёй кволай істотай, як моцна бабуля мяне любіць, хоць і не мог сказаць пра гэта, адно "агукаў" ды "бабаў".

Вярнулася з працы, увайшла ў хату маці. "Мама!" — узрадавалася бабуля. "Ма-а-а-ма!" — паўтарыў я следам. Матуля была маладая, прыгожая прыгажэйшая за бабулю. Адразу з парога яна з любоўю раскрыліла рукі мне насустрач. "Як хораша! Які цудоўны гэты свет! У мяне ажно дзве матулі. Буду заўсёды іх любіць", — радаваўся я.

Першыя праблескі свядомасці... Неверагодна, але я магу паручыцца за кожнае напісанае вышэй слова. "Слова — паняцце, думка, — засумняваецца навуковец. — Адкуль маглі брацца тыя думкі-словы ў немаўляці?" Пэўна ж, ён мае рацыю: словы прыйшлі потым, каб хоць прыблізна абазначыць пачуцці, што цераз край поўнілі маё дзіцячае сэрца.

...Дзесяць гадоў, як няма бабулі. Свет бывае часам жорсткім і непрыветным. Але я не ўяўляю, як у ім жывуць, як ходзяць па зямлі людзі, што не атрымалі ў далёкім маленстве, на самым пачатку ўсвядомленага свайго быцця гаючую і ўсеперамагаючую прышчэпку чалавечай любові, пяшчоты і дабрыні.

## ТРЫВУШЧАСЦЬ

Здзіўляе глыбіня і ёмістасць гэтага слова, якое, на мой погляд, вельмі дакладна перадае адну з галоўных рысаў характару беларускага селяніна-палешука. Куды дакладней, чым звыклыя "цярплівасць", "цягавітасць", а тым больш насцярожана-заечае "абачлівасць".

Мая бабуля Вера была чалавекам менавіта трывушчым: адна падняла на ногі — муж не вярнуўся з вайны — чатырох дзяцей, вывучыла ўсіх і толькі тады, як зладзіла вяселле найменшаму, каб нікому не перашкаджаць, пайшла жыць "да дзеда": пра замужжа ў такім узросце казаць не прынята.

У апошнія гады жыцця бабуля хварэла. Рукі яшчэ слухаліся, але дранцвела паясніца, падгіналіся ногі, калола ў грудзях. Кінуць "дзеда", такога ж "здаравяка", як сама, і ісці да старэйшай дачкі адмаўлялася. А жыць — трэба працаваць.

– Гаспадыня без кульбы кроку ступіць не можа, — дзівіліся людзі, — а на гародзе, на ўсіх дваццаці сотках — ні травінкі.

– Зусім нягодная стала, унучак, — скардзілася мне бабуля Вера. — Нагнуцца не магу, галава ідзе кругам, падаю, — то стану на калені і поўзаю ўвесь дзень. Горай за ўсё, што ўстаць сама не магу, а дзеда кожны раз не даклічашся. Я й прыдумала: паўзу да вугла хаты і, трымаючыся за яго, устаю паволі. Летні дзень — што год, вечарам да каленяў не даткнуцца.

Бачу жанчын, што просяць міласціну ў пешаходным пераходзе. Жанчын не заўсёды старых. У кожнай з іх свая праўда і крыўда, але ж... У такі момант мне заўсёды ўспамінаецца мудрая і трывушчая бабуля Вера. Я бачу, як яна, цяжка і перарывіста дыхаючы, перабірае спрацаванымі рукамі замшэлыя бярвены старой хаціны, устаючы з каленяў, і, грэшны, не заўважаю патрабавальна працягнутай да мяне далоні.

## ЛАД У СЯМ'І

Бабулін сын, а мой дзядзька Коля ў маладосці не быў прыкладным сем'янінам. Прыгажун-вайсковец ён не адну дзяўчыну прымусіў плакаць у падушку. Дзядзькава жонка, Марыя Усцінаўна, прыгожая і цяпер, а чвэрць веку назад наогул была, як у нас казалі, артысткай. Я, падлетак, любуючыся ёю, зусім па-даросламу расказаў: "І якога яшчэ ліха гэтаму дзядзьку трэба?!"

Марыйка, гэтак ласкава называлі нявестку ў нашым доме, часта плакала. Выйдзе на сцэну — у яе быў рэдкай прыгажосці голас, — пачне сваю любімую "Коля, Коля, Николаша, где мы встретимся с тобой?", а слёзы — градам з вачэй. Муж то раніцаю дамоў прывалачэцца, то зусім не з'явіцца са службы нанач. Справа ішла да разводу. І каб не бабуля Вера... У яе на гэты конт мелася свая, выверaная жыццём «тэрапія». Прыйдзе сын да маці, на службу пажаліцца — рэмень бакі аб'еў начныя нарады замучылі, — а маці неўпрыкмет на другое гаворку паварочвае: "Як падабаецца мне твая Марыя! Ні ў працы, ні на бяседзе няма ёй роўні. А якая сама: што нага пад ёй, што рука ў яе... Аднаго не разумею: за што яна кахае такога валацугу, як ты? Як яна да гэтага часу цярпіць такога дурня?"

Сын пабурчыць, як бы і пакрыўдзіцца, але, глядзіш, зноў наступае парадак у сям'і.

– Вы, мама, напэўна, нейкія чары знаеце, — здзівілася нявестка. — Коля, як пабудзе ў вас, зусім іншым чалавекам робіцца. Як у першы месяц пасля вяселля — гатовы мяне на руках насіць.

– Нічога такога я не знаю, дзетка. Не давай яму распусты — і ўвесь сакрэт, — гаворыць бабуля сур'ёзна, а вочы так і смяюцца прытоенымі ў іх хітрынкамі.

## НА ВЯСКОВЫМ СВЯЦЕ

Свята вёскі — цяпер стала модна ладзіць іх. Неафіцыйная, як кажуць, частка. Добрая палова вяскоўцаў сабралася ў прасторным крайнім двары за састаўленымі ў доўгі рад сталамі. У галавах, бліжэй да веснічак, — калгаснае кіраўніцтва.

Выпіць і закусіць удастатку. Трохі даў калгас, трохі ў складчыну, сабраліся. Насмажылі, напяклі, па грыбы ў лес выправілі маладзейшых, агародніна свая. Жнівень. А хто шчадрэйшы, дык і каўбаскі не пашкадаваў.

Вечарэе. Праходзіць міма адчыненых веснічак Рая, вясковая, як бы гэта сказаць... Сярэдніх гадоў жанчына, што не вызначаецца ні цнатлівасцю, ні цвярозасцю. Яна і цяпер на добрым падпітку. Рая праходзіць і другі, і трэці раз. Нехта з мужчын падае голас: мо запрасіць? На яго цыкнулі адразу з усіх бакоў: потым не адчэпішся, прыйдзецца з-пад стала выцягваць, няма ў бабы галавы.

Прайшоў міма хлопец у выцвілай кашулі навыпуск. На твары нейкая ненатуральная ўсмешка. Адразу і не разбярэш, ці пацягнуў добра, ці такім нарадзіўся. Спытаўся у суседа, намнога маладзейшага за мяне брыгадзіра. Ён не адразу, а, як шукаючы словы, выказаўся, што чалавек "трошкі не таго". "Мякка кажучы", — дадаў, зноў памаўчаўшы.

Пасля таго, як хлопец прайшоў міма веснічак і другі раз, немаладая жанчына з нашага стала паклала на папяровую сурвэтку некалькі скрылікаў мяса, памідорыну, катлету і накіравалася да веснічак. Следам за ёю заспяшалася з талеркай і другая жанчына. Але рукі ў хлопца былі ўжо занятыя, і ён, круцячы галавою, адмаўляўся ад пачастунку...

І цяпер перад вачамі воблік гэтага двойчы пакрыўджанага лёсам сіраты, які, трымаючы ў прыгаршчах пачастунак, плечуком, як малое дзіця, намагаецца сцерці са шчакі слязу...

Чуў: па адносінах да малых і нямоглых вызначаецца вартасць чалавека, вартасць грамадства. Дадам ад сябе: а таксама па адносінах да пакрыўджаных Богам і тых, што на яго забыліся.

## СВЯТЫЯ І ГРЭШНЫЯ

Двое сыноў, ужо самі немаладыя, прыехалі да бацькоў у пост, тыдні за два да Вялікадня. Прыехалі цягніком, бо не нажылі ў горадзе ні машын, ні вялікага багацця. Каб дзеці і іх сем'і ў Святы дзень не засталіся без свежыны, бацька закалоў вепрука, маці наладавала ў сумкі каўбас ды іншага дабра, і на стол, само сабою, паставіла: паспрабаваць. Знайшлася бутэлька магазіннай.

– Няхай Бог не крыўдзіцца, — пачала гаспадыня трохі вінавата, — не наўмысна раблю. Для мяне як вы прыедзеце, — залюбавалася на сыноў, — тады і свята. А на Вялікдзень, хто ведае, можа, мне адной гэты кусок і ў рот не палезе, як падумаю, што ў вас купіць не будзе за што...

Спрабаваў расказаць гэта маладой жанчыне, якая ўсе пасты, вялікія і малыя, абыходзіцца адным алеем. Не даслухала, замахала рукамі...

Дзве маці: старая, сямідзесяцігадовая, для якой кожны Вялікдзень можа быць апошнім у жыцці, і маладая рыначная гандлярка, чые дзеці чакаюць не дачакаюцца свята, каб атрымаць абяцаны шчодры падарунак за сваё доўгацярпенне. Хто з іх больш грэшны? Не ведаю...

## ШВАРАБЕЙ

Прыйшоў у школу, у першы клас, хлопчык-палешучок з аддаленых хутароў. Стараецца настаўніца, старэйшыя дзеці — школа малакамплектная: вучаць нябогу гаварыць "як трэба". А сваё, роднае, не адпускае.

– Хто гэта? — пытае настаўніца і паказвае малюнак шэрага, задзірыстага — зусім як жывы — жэўжыка-верабейкі. Швораб, адразу пазнае малы, але ж як гэта "па-правільнаму"? Думаў-думаў і, калі ўжо старэйшыя сталі стрымана пасміхацца, вымавіў упэўнена і выразна, як вучылі: "Эта шварабей".

І хацеў бы — не прыдумаеш. Засела ў памяці слоўка з тае самае пары. Нават вобраз пэўны за ім бачыцца. Загаворыш іншым часам з земляком, "новым" — пры пасадзе, за мяжой пажыў, прозвішча падправіў, "гаварыць" навучыўся... Не крошкі збірае — чацвёрты аўтамабіль памяняў. А на памяць прыходзіць, і нічога з гэтым не зробіш, прысаромлены Андрэйка палешучок, і перад табою ўжо не Іванаў Сяргей. з якім разам мералі лужы ды каталіся па вясне на крыгах, а задаволены жыццём, з пакаверканым прозвішчам Шварабей Іванавіч. Аж усміхнешся іншым разам.

## ЁН, ЯНА, ЯНЫ...

Мужчына гадоў трыццаці ў чарзе за цяплічнымі агуркамі. Бледны, худы, нецвярозы. Худы і бледны, хутчэй за ўсё, ад недаядання. Нецвярозы, бадай, па той жа прычыне. На ім даўно не чышчаныя туфлі з пазбіванымі абцасамі, цесны — што асабліва дзіўна пры незвычайнай худобе — пінжак, пакамячаныя штаны. Твар асунуты, шэры, і толькі вочы выдаюць тое, што чалавек усё яшчэ напінаецца не паддацца згрызотам жыцця. За рукі мужчына трымае хлопчыкаў гадоў чатырох-пяці. Абодва — бацька ў мініяцюры, — узлахмачаныя, у цесных штоніках і сандалетах на босую нагу.

– Ребята! Ребята! Извините, малость выпил. Это все ваша мать виновата, — прыкладае мужчына руку да грудзей. — Ребята, как вы считаете, может, нам поискать другую маму? Дзеці не рэагуюць...

На другі дзень сустракаю іх зноў. Мужчына — цвярозы, але пакамячаны яшчэ больш, з сінякам пад вокам. Уперадзе, крокаў за пяць, выступае на высокіх абцасах апранутая па модзе, нават з выклікам, сярэдніх гадоў жанчына. Рукі ў кішэнях моднай курткі, на плячы — бліскучая сумка-кашалёк, недарэчны бант у рэдкіх пасечаных валасах.

– Татьянка, как считаешь? Что, если на яблоки ребятам разориться? У меня завтра аванс, — вінаваціцца бацька.

–Идиот! — гучыць у адказ.

Мужчына на хвіліну спыняецца, чакае, пакуль жонка адыдзецца, і цягне малых бліжэй да піўнога ларка.

Мікола СЯНКЕВІЧ

## Юбілеі... забытых

**Так, у пэўным сэнсе яны — забытыя. Ды ўсё і ў саміх тэатрах, і па-за сцэнай ёсць людзі, якія гэтыя забытыя спектаклі памятаюць. Могуць прыгадаць гісторыю іх стварэння, пастановачныя перыпетыі, кур'ёзы, поспех, няўдачы. Могуць нават уздыхнуць з прычыны таго, што ад колішняй працы не засталося і знаку. Хіба толькі ў тэатральным летапісе, у музеі, у колішніх газетных публікацыях ды кніжках. А шкада...**

**Чаго шкада? Тых нешматлікіх, але па-свойму адметных музычна-тэатральных спектакляў, што былі натхнёныя творчасцю класікаў нашай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

**Опера "У пушчах Палесся" А. Багатырова (лібрэта Я. Рамановіча паводле Коласавай "Дрыгвы"), пастаўленая ў Мінску ў 1939 г., была экранізавана да 100-годдзя песняра Беларускім тэлебачаннем, роўна два дзесяткі гадоў таму. Балет Я. Глебава "Выбранніца" (лібрэта А. Вярцінскага і А. Дадзішкіліяні паводле Купалавых паэм) ставіўся ў Мінску ды Новасібірску (1969, 1970 гг.). Музыка яго 30 гадоў таму была адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі, а 20 гадоў таму, напярэдадні стагоддзя Янкі Купалы, яе матывы пераўвасобіліся ў балет "Курган".**

**Купалава "Паўлінка" набыла новае жыццё (прычым, з аўтарскім драматычным фіналам!) у аперэце Ю. Семянякі на лібрэта А. Бачылы. Прэм'ера адбылася без малога 30 гадоў таму. Той жа Ю. Семяняка звярнуўся да вобразаў Коласавай "Новай зямлі" і ў садружнасці з лібрэтыстам А. Петрашкевічам стварыў аднайменную оперу (год напісання — 1978, год прэм'еры — 1980).**

**Сёлета культурная грамада адзначае юбілеі беларускіх песняроў. Заадно можна адзначаць і юбілеі музычных спектакляў, натхнёных іх творчасцю... На жаль, новае — не нарадзілася. Ні ў Вялікім тэатры оперы і балета, ні ў Дзяржаўным музычным. Ні "ў дату", ні па-за ёй. Не было нават спробы сучаснага "рымэйку" на аснове колішніх музычна-тэатральных пастановак паводле Купалы і Коласа.Ці хаця б гала-канцэрта з найбольш яркіх вакальна-сімфанічных нумароў, арый, харавых, танцавальных эпізодаў... Лепш адсвяткуем юбілеі забытых?**

**Я. КАРЛІМА**

## Вечны горад, з'ява прыроды

**У мастацкай галерэі на праспекце Скарыны, што побач з Галоўнай поштай, адкрылася выстава твораў Тамары Кіршынай. Мастачка даўно і плённа працуе ў галіне керамікі. Яе манументальных памераў творы упрыгожваюць грамадскія будынкі. Творы камернага характару захоўваюцца ў музейных зборах; прыватных калекцыях.**

**Тамара лічыць сябе вучаніцай Аляксандра Міхайлавіча Кішчанкі — славутага майстра, чыя творчасць склала цэлую эпоху ў беларускім выяўленчым мастацтве. Тамара Кіршына, дарэчы, брала чынны ўдзел у рэалізацыі шэрагу праектаў Аляксандра Кішчанкі.**

**Экспазіцыя выставы складзеная з цыкла, прысвечанага Мінску, і кампазіцый абстрактна-філасофскага зместу. У пэўным сэнсе гэта выстава настальгічная. Яна ўзнаўляе ў памяці 80-я гады, каларыт і подых тых гадоў. Але мастачка майстэрскі спалучае з традыцыяй сучаснасць. Мінск на яе кампазіцыях вечны горад, і ў пэўным сэнсе — з'ява прыроды. Горад вечны і сучасны. Сучаснасць у сваю чаргу для Тамары Кіршынай — адна з іпастасяў вечнасці.**

**П. В.**

***Гэтае лета аказалася багатым на выставы сучаснага беларускага мастацтва ў самых розных яго праявах. У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва прадстаўлена нашумелая ў Мінску выстава жывапісу, графікі і скульптуры "Сучасныя мастакі Беларусі", якая рыхтавалася амаль паўгода таму да дзён беларускай культуры ў Парыжы. Супала па часе адкрыцця і праявядзення з ёю і выстава ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі пры Саюзе мастакоў, дзе можна было азнаёміцца з сучасным беларускім жывапісам, экспазіцыя якога падрыхтавана секцыяй жывапісу БСМ. Магчыма, такое супадзенне па часе і выпадковасць, але пры ўсёй недарэчнасці супастаўлення гэтых выставаў напрошваюцца самыя розныя думкі і параўнанні. І напаследак прэзентавалася трэцяя выстава – у Нацыянальным мастацкім музеі, дзе прадстаўлена калекцыя беларускага жывапісу 80-90х гадоў.***

жывы працэс, які не церпіць абмежаванняў рамкамі дырэктываў і нарматываў. Гаворка не можа і не павінна ісці пра рэгуляцыю гэтага працэсу. Здаецца, старэйшыя "ад пуза" наеліся рэгулятарскай функцыяй выстаўкамаў, якія мелі неабмежаваную ўладу не дапускаць непажаданыя творы да гледача. Спробай такой рэгуляцыі было і стварэнне творчых саюзаў.

Сёння часы іншыя. Выстаўляцца нікому не забараняецца. Як і вынаходзіць новыя тэхнікі, тэхналогіі, тэмы і спасобы падачы.

# Роздум пасля парыжскай выставы

Шмат разоў журналісты спрабавалі ацаніць альбо хаця б абазначыць тое мастакоўскае асяроддзе, якое з гонарам называе сваё мастацтва сучасным. Як толькі не называлі гэту творчую супольнасць. І "міжсабойчыкам"; і "тусоўкай", дзе ўсе кіруюцца адным прынцыпам — не нажыві сабе ворагаў; і "яешняй", дзе спякаецца ў нішто божы дар і валадарыць чалавечыя нагаворы. Усе гэтыя азнакі сапраўды маюць падставы для існавання, але пры гэтым заводзяць нас у мудрагелістыя лабірынты словаблуддзя, вынікам якога становіцца ўпэўненасць у нашай глыбокай правінцыйнасці. Так, месячковасці ў нашым мастакоўскім асяроддзі хапае. Як кпінаў у спіну, кукішаў у кішэні, кампліментаў у вочы і непавагі за імі. Усе ведаюць адзін аднаго многа гадоў, выстаўляюцца з рознай перыядычнасцю ў трох асноўных музеях, адной асноўнай галерэі і трох-чатырох меншых залах, куды на адкрыцці прыходзяць пабачыцца і абмеркаваць праблемы, з-за чаго справядліва здаецца, што сталіца — проста вялікая вёска. Так, многія мастакі жывуць у адным доме, які ў народзе так і завецца домам мастакоў, бо ён спецыяльна быў пабудаваны "з шырокага пляча" Пятра Машэрава. Праўда, мастакі займаюць толькі адну яго палову, менавіта там на першым і апошнім паверсе, а таксама ў шматпавярховай прыбудове побач — прыстасаваныя майстэрні. І па вечарах у двары адбываюцца не проста сустрэчы сяброў, тут абмяркоўваюцца праекты, наважваюцца неафіцыйныя сходы, віруе мастакоўская грамадская думка. Праўда і тое, што большасць мастакоў нават дачы атрымала ў адным прыгожым месцы каля Астрашыцкага гарадка (разам з іншымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі). Садовае таварыства назвалі "Сябры". А самі сябры, згодна нармальнай чалавечай псіхалогіі, сталі выштукоўваць адзін перад адным гмахі...



Але, зрэшты, чалавечыя слабасці — гэта не тэма для размовы, калі гутарка ідзе пра людзей творчых. І не загана гэта, што маладзейшыя мастакі нарэшце сталі прадаваць свае творы дорага і набываць шыкоўныя кватэры і машыны, а старэйшыя пачалі без сарамлівасці ганарыцца сваімі дзецьмі і ўнукамі, якія таксама сталі мастакамі. Выхаваныя на творчай атмасферы з дзяцінства, многія з маладых мастакоў па сутнасці перагналі сваіх бацькоў. Дарэчы, мастацкая моладзь больш "тоўстаскурая", чым старэйшыя, не такая крыўдлівая. Магчыма, таму, што працуе на замежжа і часта надзвычай вынікова, атрымліваючы прэстыжныя міжнародныя ўзнагароды, гранты, і проста зарабляючы грошы. Яе не цікавіць крытыка ўвогуле, з мноствам агульных словаў і разважанняў, якія ні да чаго не абавязваюць. Сённяшніх мастакоў цікавіць крытыка ўдумлівая, нязлосная без неабходнасці, але вельмі канструктыўная. Тым больш публічнае слова "супраць шэрсці", калі яно абгрунтаванае і разважлівае, не пакрыўдзіць, а прымусіць у душы задумацца...

Якое ж мастацтва мы лічым сёння сучасным? Адказ на гэта пытанне тым больш актуальны і цікавы, калі бачыш значную розніцу канцэптуальных падыходаў на выставах, дзе ў назве прысутнічае слова "сучасны". Вакол нас віруе вялікі мастацкі свет, дзе можна набрацца вопыту. На жаль, ніводны беларускі мастацкі музей не ў стане самастойна запрасіць заходнюю "зорку" паказаць творы ў сваіх залах. Але ж мы даўно жывём у стагоддзе Інтэрнэта і хуткай сувязі, ніхто не забараняе выехаць за мяжу, каб, напрыклад, на вочы пабачыць касельскую "Дакументу" альбо маскоўскі Арт-манеж. Свае бібліятэчныя зборы (таксама і па мастацтве) прадастаўляе для адкрытага карыстання Інстытут Гётэ, Польскі інстытут, Амерыканскае пасольства, Брытанскі інстытут. Многае прывозяць самі мастакі, дараць заезджыя знакамітасці бібліятэкам. Інстытут Гётэ наладжвае для студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў лекцыі з праглядам відэа-матэрыялаў пра цікавыя сусветныя мастацкія падзеі альбо з'явы... Гэта аніяк не параўнаць з 1950-60 гадамі, на якія трапіла маладосць сённяшніх беларускіх "класікаў". Многія з іх згадваюць, з якой цяжкасцю вышуквалі кніжкі і прачытвалі іх літаральна за адну ноч. На жаль, адказ на пытанне "хто ёсць хто" ў сусветным мастацкім працэсе часта скажона даносяць нязмушаным чытачам менавіта журналісты. Таму што прэса ўсё ж вялікая сіла, якая можа лёгка зняважыць і лёгка падняць на п'едэстал. І далёка не заўжды заслужана.

Вось тут і ўзнікае галоўнае пытанне сучаснага мастацтва — пытанне крытэрыяў адзнакі. Таму што з класікай усё лягчэй — там за нас ужо працавалі стагоддзі. Квадрат Малевіча мы нават не намагаемся ацэньваць праз мастацкія вартасці, а ўспрымаем як знак часу, прыняты без пярэчанняў. А вось такі ж квадрат нашага сучасніка ўздыме такую хвалю незадаволенасці і крытыкі, што варта будзе затыкаць вушы. Жорсткія спрэчкі суправаджаюць пасяджэнне экспертнай камісіі Міністэрства культуры, якая аглядае, ацэньвае творы для закупу на дзяржаўныя гранты. Але ж зацверджаных і распрацаваных крытэрыяў сённяшняга мастацтва проста не можа існаваць, хаця б таму, што сучаснае мастацтва — гэта

Таму і крытэрыі ацэнкі могут быць розныя. Найперш, па прафесійнасці, а мастацтва мае свае пісаныя і няпісаныя законы (колеру, штрыха, лініі і г.д.) Па навізне і нечаканасці падачы, па рэалістычнасці ці нефігуратыўнасці... І ацэньваць творчасць мастака мы павінны зыходзячы з высокага ўзроўню беларускай мастацкай школы. У Еўропу мы прыходзім не з працягнутай рукою.

Думаю, што з гэтага сыходзіў і Пьер Кардэн, калі цалкам даверыўся беларускаму калектыву арганізатараў выставы "Сучасныя мастакі Беларусі"( а гэта супрацоўнікі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, а таксама мастацтвазнаўца, прарэктар Беларускай акадэміі мастацтваў М.Баразна). Пры папярэднім узгадненні збору знакаміты мадэльер не ўнёс аніякіх паправак. Гэта стала магчымым пры карпатлівай працы над канцэпцыяй выставы нашых спецыялістаў. Кардэн не толькі не выпраўляў неісночных памылак беларускіх мастацтвазнаўцаў, але быў вельмі ўражаны пры асабістым знаёмстве з выставай беларускага мастацтва. Палову работ ён з задавальненнем бачыў бы ў асабістай калекцыі (аднак выстава была некамерцыйная). Высокая ацэнка – вельмі важная для беларускага мастацтва, яна засведчыла супадзенне нашых поглядаў з меркаваннем калекцыянера Кардэна, прыцягнула да выставы ўвагу французскай прэсы і мастакоў, шматлікіх наведвальнікаў.

Для кожнай выставы найбольш важны этап — стварэнне канцэпцыі. Канцэпцыя віртуозна з'ядноўвае самыя нечаканыя рэчы, надае цэльнасці , адшліфоўвае глядацкае ўспрыманне. Беларусь мае шматгадовы вопыт правядзення рэспубліканскіх выставаў. Але з гэтага вопыту мы маем шэраг горкіх няўдачаў. Выставы, як штораз справядліва адзначалі крытыкі, грашылі на адсутнасць канцэпцый, сапраўды не мелі дакладнага адбору і мастацтвазнаўчай ацэнкі. Здаецца, самі мастакі баяліся з'яўлення кола куратараў і галерэйшчыкаў, якія будуць вольна распараджацца іх творамі. Кожны думаў больш пра сябе, а не пра агульную экспазіцыю. Сёння сітуацыя мяняецца, хоць і не вельмі хутка. Не толькі прыватныя





галерэі, але і дзяржаўныя музеі ўводзяць у карыстанне тэрмін "куратар выставы", які адказвае за канцэпцыю і адбор твораў на выставу. Варта, магчыма, мастацкім навучальным установам, дзе ёсць спецыяльнасць мастацтвазнаўства, уводзіць як асобны курс галерэйную і куратарскую справу.

Дарэчы, у канцэпцыю выставы ў Парыжы клаліся далёка не ўсе творы беларускіх мастакоў, і не толькі рэалістычнага, але і канцэптуальнага накірунку. У БСМ 1200 мастакоў, а ў Парыж "паехалі" творы шасцідзесяці. А паколькі не кожнаму гэта растлумачыш, то і крыўдаў было зашмат. Творы адбіраліся дбайна, каб не пашкодзіць агульнай экспазіцыйнай цэльнасці. Беларускае мастацтва прадстаўлялася як панарама шырокага мастацкага працэсу, дакладней, мноства працэсаў, якія прыкметна адрозніваюцца між сабой. Атрымалася экспазіцыя колерава разнастайнай, фігуратыўнай і не, з нечаканай скульптурнай пластыкай і моцнай графікай. Дарэчы, з удзелам не толькі моладзі...

Таму, шкада, што пройгрышна на фоне "парыжскай" выставы выглядала выстава ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі пры БСМ. Засталося ўражанне, што як і раней для замежнікаў выстаўляецца лепшае, а для сябе — што застанецца. Арганізатары выставы жывапісу пайшлі па самым простым шляху — сабралі на вялікай плошчы прынесеныя членамі секцыі жывапісу работы без дакладнага адбору. Гэта не дало зрэзу сучасных пошукаў у жывапісе, бо ў выставе ўдзельнічалі далёка не ўсе беларускія жывапісцы, і амаль ніхто з прадстаўленых на выставе ў Музеі сучаснага мастацтва. І калі нават сыходзіць з таго, што секцыя жывапісу зрабіла справаздачную выставу сваіх сяброў, застаецца пытанне, чаму ж экспазіцыя выглядала так шэра і нецікава. І, думаецца, у такім выглядзе наўрат ці спадабалася б Кардэну і французскім гледачам.

Заўжды варта мець магчымасць паглядзець на сябе з боку. Такой магчымасцю стала для Беларусі выстава ў цэнтры Кардэна. Выверaная і адабраная экспазіцыя засведчыла, што мы маем і высокае мастацтва, і ўмеем яго прадстаўляць. І самае галоўнае, як важна ў калектыўнай выставе мець мастацтвазнаўчую аснову, дакладную канцэпцыю, бачыць працу куратара, пад руплівым кіраўніцтвам якога любы накірунак нашага мастацтва можа заблішчаць як дыямант.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: На выставе "Сучасныя мастакі Беларусі"; В. АЛЬШЭЎСКІ. "Птушыная размова"; А. МАРАЧКІН. "Дотык".*

*Фота К. ДРОБАВА*

ГАСЦЁЎНЯ

# Рэжысёр па-за операй?

***Дзякуй выпадку, што звёў мяне з гэтай незвычайнай жанчынай. Творчых асоб такога маштабу ў нас на Беларусі, на жаль, зусім не шмат, тым больш, у звышскладанай і ўсеабдымнай сферы опернай рэжысуры, якую, да таго ж, лічаць манаполіяй мужчын. Сама Маргарыта Мікалаеўна Ізворска-Елізар'ева не вызначае сваю прафесію як мужчынскую. Такое меркаванне, паводле яе слоў, — памылковае.***

Найвысокі мастацкі ўзровень спектакляў, створаных М. Ізворска-Елізар'евай на сцэне Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі, дазваляе ставіць яе імя побач з імёнамі лепшых оперных рэжысёраў свету. Кожная яе пастаноўка сталася вяхой у гісторыі беларускага музычнага тэатра: "Дон Карлас" Д. Вердзі, "Севільскі цырульнік" Д. Расіні, "Чарадзейная флейта" В. Моцарта, "Тоска" Д. Пучыні, "Кацярына Ізмайлава" Д. Шастаковіча... Амаль усе яны і дагэтуль у рэпертуары і адрозніваюцца ад шэрагу апошніх "напаўканцэртных" прэм'ер як свята ад бляклага ценю. У спектаклях М. Ізворска-Елізар'евай пульсуе жыццё, яны напоўнены пачуццямі, таму такі моцны іх уплыў на эмоцыі гледача.

Але ўжо 7 гадоў пастаноўкі М. Ізворска-Елізар'евай жывуць у тэатры асобна ад іх стваральніцы. У 1994-м, пасля 18-гадовай напружанай і плённай працы ў нашым оперным Маргарыта Мікалаеўна воляю абставінаў пакінула тэатр. Чаму тэатр адрынуў спецыяліста **такога** кшталту?! Пры гэтым рэжысёрскія, канцэптуальныя спектаклі спакваля саступілі ў рэпертуары месца змайстраваным на хуткую руку канцэртным паказам, з'яўленне якіх на акадэмічнай опернай сцэне больш чым дзіўнае — нават у складаных эканамічных варунках.

Пры канцы яшчэ мінулага сезона, асэнсаваўшы становішча тэатра, яго кіраўніцтва сур'ёзна занялася пошукамі кандыдатуры на пасаду галоўнага рэжысёра. Здавалася б, самы час успомніць пра М. Ізворска-Елізар'еву: хто як ні яна здольная сваім аўтарытэтам і высокім прафесіяналізмам вывесці тэатр з відавочнага тупіка, вярнуць яму колішнюю славу? Але дзе там! З упартасцю, вартай лепшага скарыстання, тэатр шукае на чын галоўнага рэжысёра чарговы "свежы" талент — чужынца, значыць. Каб той, як у казцы, прыйшоў, убачыў, перамог...

А да Маргарыты Мікалаеўны ўвогуле аднесліся, можна сказаць, цынічна: яе пастаноўку оперы "Кацярына Ізмайлава", якая некалькі сезонаў не ішла на сцэне, аднавілі і падрыхтавалі да новага паказу самі, без удзелу рэжысёра (а яна ж увесь час жыве ў Мінску), нават не запрасілі яе на прэм'еру аднаўленага спектакля!

**Я запыталася ў М. Ізворска-Елізар'евай пра яе стаўленне да такой сітуацыі і пачула тлумачэнне:**

— Гэта — паказчык стану таго маральна-этычнага асяроддзя, у якім тэатр цяпер існуе. І парадаксальна, што пры сённяшнім недахопе прафесійных оперных рэжысёраў тэатр мяне проста не заўважае ці не ўспамінае: нібыта я не існую ў рэальнасці. І ўвогуле ніколі не існавала.

**— А чаму вы пайшлі з тэатра?**

— Гэта было пасля прэм'еры "Кацярыны Ізмайлавай" — маёй апошняй пастаноўкі. Менавіта з гэтым спектаклем, я лічу, да мяне прыйшло канчатковае ўсведамленне, што я адбылася як рэжысёр оперы. Але праца над "Кацярынай Ізмайлавай" ішла цяжка, дырэкцыя ёй зусім не спрыяла. Спектакль выйшаў, яго сустрэлі вельмі прыхільна, быў сапраўдны поспех. Але, як і кожны рэжысёр, я бачыла хібы, якія неабходна было выправіць. Мне хацелася дапрацаваць спектакль, давесці яго да жаданай ступені мастацкасці, і пасля прэм'еры я папрасіла некалькі сцэнічных рэпетыцый. Але мне адмовілі. Да таго ж, кіраўніцтва паведаміла, што на бліжэйшыя 5 гадоў я не магу разлічваць на новую пастаноўку ў нашым тэатры. Ну, калі б я была невядомай нікому дзяўчынкай, якая толькі-толькі прыйшла працаваць, тады, магчыма, было б зусім натуральна — чакаць па 5 і болей гадоў чаргу на сваю наступную пастаноўку. Хаця магу сказаць, што мой самы першы спектакль у нашым тэатры, "Дон Карлас", быў адзначаны 1-й прэміяй на Усесаюзным аглядзе лепшых оперных спектакляў. Не скажу, што гэта быў нейкі асабліва выдатны спектакль, але мне за яго не сорамна і сёння. Яго любіла і публіка, і спевакі.

А чаму я пакінула тэатр? У нейкі момант прыйшло ўсведамленне, што маё разуменне опернага тэатра, таго, якім павінна быць стаўленне да творчасці і мастацтва, не супадала з уяўленнем кіраўніцтва. А многія людзі, якія падтрымлівалі мяне, падзялялі мае погляды, з-за гэтага ж мелі пэўны дыскамфорт у сваім творчым жыцці. Я магла сабе дазволіць пайсці з тэатра і не ладзіць кампраміс з уласным сумленнем, застацца пры сваім разуменні таго, **што** такое тэатр, **што** такое оперны спектакль. Я не магла і не магу пагадзіцца з тым, што тэатр гаворыць пра нейкія поспехі, нейкі бачны творчы дабрабыт. Тэатр камерцыялізаваўся, пачаў ездзіць за мяжу. Але камерцыйная дзейнасць добрая ў пэўных межах. Усе ведаюць, **што** яна дае і **што** забірае. Тэатр вывозіць за мяжу дыхтоўную "сыравіну" — харавы калектыў, аркестр, спевакоў, — але не паўнавартасныя спектаклі. Лічу, што гэта не той шлях, па якім трэба ісці, і няма чым тут ганарыцца. Такая сітуацыя пачала ўсталёўвацца яшчэ ў сярэдзіне 90-х, і мне гэта было вельмі балюча. Я не магла больш заставацца ў тэатры.

Блізкія людзі мяне не разумелі, муж гаварыў: як? Ты столькі часу прысвяціла гэтай справе, палову жыцця! Паставіла, можа, самы лепшы свой спектакль — і зыходзіш? Але мне здавалася, што, калі я застануся ў тэатры, дык памру. Паветра там для мяне не было. Разумела, што я там непажаданая. Паўставала пытанне: альбо я застануся, уступіўшы ў самаразбуральную барацьбу паміж асобнымі ўнутрытэатральнымі групоўкамі, альбо пайду, каб захаваць сябе чалавекам, здатным не здрадзіць сваім уяўленнем пра маральнасць. Я пайшла. І лічу, што правільна зрабіла. Але мне шкада здольных, таленавітых спевакоў-акцёраў, калі яны не могуць змяніць гнятлівую для мастацтва сітуацыю ў тэатры. Напэўна, я — чалавек іншага тэатра. І таму не прымаю таго, што адбываецца тут.

**— Не ведаючы дакладных прычын вашага зыходу з тэатра, я запыталася ў яго мастацкага кіраўніка Сяргея Картэса, ці не ўваходзіць у планы тэатра аднаўленне супрацоўніцтва з вамі. Ён паведаміў, што вы адмовіліся ад гэтага супрацоўніцтва. Ды ўсё ж, ці прынялі б вы прапанову вярнуцца?**

— Я магла б яе прыняць толькі ў тым выпадку, калі б ведала, што будзе магчымасць змяніць цяперашнюю сітуацыю і вярнуць нашаму опернаму рэпутацыю аднаго з лепшых тэатраў былога Саюза. Тэатр не павінен прыніжацца перад замежнымі імпрэсарыо. Я імкнулася б вярнуць акцёрам самапавагу, усведамленне таго, што тэатр — гэта падмосткі жыцця чалавечага духу, акцёр жа — той медыум, які здольны павесці людзей да нечага лепшага, даць ім надзею, веру. Урэшце ж, не ўзнімаюцца па лесвіцы, якая вядзе ўніз!

**— Я нядаўна зноў паглядзела "Чарадзейную флейту" і чарговы раз захапілася высокай мастацкай якасцю гэтага вашага спектакля. З якой любоўю "прапісана" кожная дэталь, кожная мізансцэна! І ведаеце, калі гучалі апладысменты, мне хацелася плакаць ад шчасця, ад судакранання з усеабдымнай гармоніяй, якой вы дасягнулі ў сваёй пастаноўцы. І тое ж адчуванне ўзрушанасці і захаплення я зведала, калі глядзела прэм'еру балета "Спячая прыгажуня" — у пастаноўцы вашага мужа Валянціна Елізар'ева. Мне здаецца, гармонія вашых сямейных адносінаў жыватворным чынам увасабляецца ў вашых мастацкіх падыходах да прафесіі. Але ў Валянціна Мікалаевіча ёсць свой тэатр, а значыць — умовы для таго, каб ствараць вольна, не абмяжоўваць сябе. Вы ж, якая ў сваім жанры стаіце, я лічу, упоравень з ім, пазбавіліся магчымасці ставіць спектаклі. Гэта маё ўласнае меркаванне, але — здаецца, што сваім адыходам вы нашкодзілі і сабе, і тэатру...**

— Думаю, што менавіта сабе я шкоду не зрабіла. Я за гэтыя сем гадоў занялася праблемамі музычнай эстэтыкі, абараніла дысертацыю ў галіне філасофіі, пішу доктарскую... Вялікі адрэзак жыцця я прысвяціла свайму любімаму жанру — оперы — як практык, цяпер асэнсоўваю яго тэарэтычна. Вярнулася на працу ў Беларускую акадэмію музыкі, дзе выкладаю студэнтам асновы опернай падрыхтоўкі. Так што сябе я не шкадую. Я шкадую тэатр. Можа, гэта і нясціпла, але, мне здаецца, калі б я працавала ў тэатры, ён мог бы зэканоміць вялікія грошы, якія змарнаваў на ганарарах запрошаным рэжысёрам, замест таго, каб размеркаваць гэтыя значныя сумы паміж сваімі спевакамі і музыкантамі. Бо рэжысёр, які працуе ў штаце тэатра, не атрымлівае ганарары, у адрозненне ад запрошаных калег. "Апетыты" ў модных пастаноўшчыкаў цяпер вялікія, але яны не нясуць адказнасці за якасць сваіх спектакляў, за іх далейшы пракатны лёс. Роля рэжысёра-гастралёра ў тым, каб скарыстаць рэсурсы трупы, а роля рэжысёра на сталай працы ў тэатры, — выхаваць калектыў як адзінае цэлае і забяспечыць яго творчы рост. Ролі, ці задачы, абсалютна розныя.

**— Маргарыта Мікалаеўна, у вас з Валянцінам Елізар'евым вельмі добрая сям'я. Напэўна, гэта і дапамагае вам пераадольваць цяжкасці?**

— Мне вельмі пашчасціла, бо ў мяне — ідэальны муж. Ён — чалавек надзвычай верны. Такія людзі сустракаюцца рэдка, асабліва ў тэатральным асяроддзі. Калі б не сям'я, я не ведаю, як бы перажыла зыход з тэатра. Сям'я мне кампенсавала спаўна ўсё тое, што я страціла ў сваім прафесійным жыцці. У нас вельмі шчаслівы шлюб — многія нават здзіўляюцца. І гэта пры тым, што і я, і Валянцін Мікалаевіч — людзі з вельмі цяжкімі, моцнымі характарамі. Але, нягледзячы на гэта, наша жыццё цячэ вельмі спрыяльна. У нас цудоўныя дарослыя дзеці — сын і дачка, вельмі добрыя і справядлівыя людзі. Так што мая сям'я — гэта мая крэпасць, мая радасць, мая цеплыня і мой гонар. У сям'і я знаходжу ўвасабленне тых прынцыпаў маральнасці, якія стаўлю вышэй за ўсё.

●

*Сем гадоў запар заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Маргарыта Ізворска-Елізар'ева "маўчала": не выказвалася ў прэсе і не давала інтэрв'ю. Праўда, увесь гэты час яна пасляхова займалася і займаецца навукай. Але яе маўчанне як рэжысёра-пастаноўшчыка — факт, мякка кажучы, прыкры. Майстар опернай рэжысуры, глыбокі мастак, цэласная натура... Ці не зацягнулася яе "замоўчванне" ў тэатры?*

**Вольга БРЫЛОН**

На здымку: М. Ізворска-Елізар'ева падчас працы над спектаклем.

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА

## АЛЬФА-БЭТА

**Нарадзіўся Віталь Собаль у Мінску ў 1974 годзе. Скончыў 66-ю сярэднюю сталічную школу, а затым беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ.**

**Любоў да роднага слова, да прыгожага пісьменства Віталь атрымаў у спадчыну ад маці, настаўніцы Ядвігі Іванаўны, а таксама пераняў у сваіх універсітэцкіх настаўнікаў (былога дэкана філалагічнага факультэта Алега Лойкі ды іншых).**

**Пасля універсітэта вучыўся ў магістратуры. Некаторы час працаваў у рэдакцыі часопіса "Роднае слова". Заробак быў мізэрны. Паспрабаваў заняцца дробным бізнесам, аднак гэта не прыносіла маральнага задавальнення, не стасавалася з паэтычным настроем і перакананнямі творчай асобы.**

**Пошукі жыццёвага і творчага шляху працягваюцца.**

**Вершы піша са школьных гадоў, але друкавацца не спяшаўся. Сціпласць не дазваляла адкрыцца? А дарэмна! Вершы яго ныя безумоўна вартыя чытацкай увагі. Няхай жа першае выступленне ў друку станецца добрым стымулам у паэтычным жыцці.**

Васіль ЖУКОВІЧ,
Вячаслаў МАШКО

Віталь СОБАЛЬ



### Нашы мамы

*Мы памятаем іх,*
*Захоўваем удзячнасць,*
*Прыгадваем тады,*
*Калі жыццё нас б'е.*
*Ды ў клопатах сваіх*
*Мы цэнім нашу значнасць,*
*Няма другой бяды*
*Для нас, апроч свае.*

*Яны ж глядзяць на нас*
*З бязмежнаю пяшчотай*
*Спачатку на зямлі,*
*А потым і з нябёс.*
*Мы крыўдзім іх падчас,*
*І плачуць яны ўпотай,*
*Каб доўга мы жылі,*
*Не ведаючы слёз.*

*І пакуль ва ўспамін*
*Не пойдуць нашы мамы,*
*Нам трэба з імі быць,*
*Ласкавы голас чуць,*
*Бо самы дрэнны сын*
*Для іх — найлепшы самы;*
*Так важна іх любіць,*
*Пакуль яны жывуць.*

●

*Самыя дрымучыя лясы,*
*Самыя празрыстыя азёры,*
*Казачныя птушак галасы,*
*Самыя буйныя ўночы зоры,*

*Самыя зялёныя сады,*
*Самыя блакітныя нябёсы,*
*Ціхія старыя гарады,*
*Новыя шкляныя хмарачосы,*

*Спаленая войнамі зямля,*
*Самыя забруджаныя рэкі,*
*Самы невыгодны курс рубля,*
*Стомленыя лёсам чалавекі.*

*Самі для сябе капаем дол,*
*Большасць на чужой*
*гаворыць мове,*
*Злосць і абыякавасць вакол...*
*Да чаго ж мы коцімся, панове?*

### Адказы

*Куды вядуць мяне ногі?*
*На зямлю, што завецца*
*Айчынаю.*

*Што трымаюць мае рукі?*
*Незгасальную пад вятрамі*
*Паходню.*

*Што чуваць маім вушам?*
*Залаты пошум жытнёвых*
*Палеткаў.*

*На што глядзяць мае вочы?*
*На незлічоныя дажджы*
*Зарападаў.*

*Аб чым баліць маё сэрца?*
*Аб скалечаных лёсах*
*Землякоў.*

*Пра што пяе мая душа?*
*Пра жаданую вякамі*
*Свабоду.*

### Міжсезонне

*Кожны год між зімой і вясной*
*Ёсць прамежак які-сьці няпэўны:*
*І марозу ўжо быццам няма,*
*Ды без сонца цяпла нестае.*
*Паглядзі: між табою і мой*
*Адбываецца тое ж, напэўна.*
*Можа, хутка з палону зіма*
*Ўжо адпусціць пачуцці твае...*

### Спакой і прыгоды

*Хапала нам одаў*
*І гімнаў было,*
*Галовы ад поспехаў кругам.*
*Шукалі прыгодаў*
*Спакою назло,*
*І шэнціла нам, валацугам.*

*Цяпер, як на тое,*
*Ці днём, ці ўначы,*
*Ці раніцай, словам — заўсёды,*
*Жадаем спакою,*
*Жыццё ж, хоць крычы,*
*Адны прапануе прыгоды.*

### Строфы

*1*
*Паглядзеўшы на неба —*
*На зямлі не заблудзіш.*
*Падзялі бохан хлеба —*
*Сам галодны не будзеш.*
*2*
*Не шукай сваю мару,*
*Бо, як знойдзеш, — знікае.*
*Задуменнасць да твару*
*Тым, хто праўду шукае.*
*3*
*У праклятую замець*
*Памірае дарога.*
*Зазірні ў сваю памяць —*
*Пашкадуеш былога.*

### Ілюзіі

*Незайздросны твой лёс, чалавек:*
*Будзеш прагнуць*
*знайсці нерэальнае*
*Ты ад першага кроку ўвесь век*
*Да часіны фінальнае.*

*А насамрэч і думкі, і сны,*
*І пачуцці ў нас — спрэс ілюзорныя.*
*І зялёныя фарбы вясны*
*У рэальнасці чорныя.*

*Толькі ў марах жар-птушка любоў*
*Гэтак вольна ляціць над абшарамі.*
*Летуценнікі грэшныя, зноў*
*Мы ратуемся марамі.*

# Мастак жыве ў Мазыры



У Рэспубліканскай мастацкай галерэі пры Беларускім саюзе мастакоў адкрыў сваю персанальную выставу мастак Мікалай Дубрава, які стала жыве ў Мазыры. Шмат ладзіць выставаў, але ўсе яны — на Палессі. У Мінску мастак прадставіў сваю персанальную і адначасова юбілейную выставу ўпершыню. На жаль, знайсці магчымасць адкрыць выставу ў галерэі БСМ майстру з правінцыі нялёгка. Гэта не дазваляюць і шчыльныя шэрагі сталічных творцаў, і немалы кошт плошчаў у галерэі, якія бясплатна прадастаўляюцца сябрам БСМ толькі пад юбілейныя экспазіцыі.

Мікалая Дубраву такая сітуацыя не засмучае. Ён часта і з задавальненнем ладзіць выставы ў Мазыры і Гомелі, а сваю юбілейную экспазіцыю мяркуе пасля Мінска правезці па Палескім рэгіёне — у Пінск, Брагін, Хойнікі, Калінкавічы. У Мазыры ён адчувае сябе ўтульна, мае вялікую майстэрню (76 квадратных метраў) з высачэзнымі столямі, якую атрымаў ад гарадскіх уладаў. З яе вокнаў на шостым паверсе адкрываецца надзвычай прыгожы краявід. Мастак працуе на мазырскім аддзяленні Гомельскага мастацка-вытворчага камбіната. Да таго ж кіруе мастацкай студыяй у Мазыры пры Педагагічным універсітэце, які мае таксама аддзяленне выяўленчага мастацтва і графікі. Займаецца з задавальненнем не толькі з будучымі мастакамі, але і з усімі студэнтамі, якія зацікаўлены навучыцца трымаць у руках пэндзаль. Дарэчы, стаўленне гарадскіх уладаў Мазыра да мастакоў прыхільнае. У Мазыры ў цэнтры горада працуе выставачная зала, ёсць мастацкая школа. У пасёлку Крынічнае каля Мазыра яшчэ за савецкім часам быў адкрыты ў будынку школы мастацкі музей — філіял Нацыянальнага мастацкага музея. Гэтым музеем, у якім прадстаўлены творы многіх вядомых беларускіх мастакоў, ганарацца ўсе мазырчане.

Мікалай Дубрава закончыў кафедру графікі Беларускай акадэміі мастацтваў, атрымаўшы сапраўдную школу майстэрства ў народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча. Пасля вярнуўся на родную Мазыршчыну, адмовіўшыся ад многіх заманлівых запрашэнняў. Толькі тады Мікалай Дубрава ўсур'ёз заняўся жывапісам. І зараз у яго майстэрні стаіць друкаваны станок, і Мікалай з задавальненнем займаецца афортам і вучыць гэтай складанай тэхніцы студыйцаў. Піша акварэлі, малюе плакаты. Персанальную ж выставу ў Мінску М.Дубрава склаў з жывапісных твораў. Многія



з іх — краявіды, шмат партрэтаў. "Якая на Мазыршчыне прыгожая прырода, якая велічная Прыпяць, тым больш ужо ўляглося адчуванне трывогі пасля чарнобыльскай аварыі," — прызнаецца мастак. У партрэтах ён улюбёна выпісвае выразныя твары вясковых людзей. Нават карціны на чарнобыльскую тэматыку не маюць драматызаванасці і тэатральнасці, а менавіта гэта перашкаджае многім мастакам выказавацца пра трагедыю шчыра. На выставе Дубравы адпачываеш душою, і ў гэтым сакрэт папулярнасці мастака сярод палескага люду.

Наталля ШАРАНГОВІЧ



*Святочны дзень*

# Жыццёвыя гісторыі

## БАЦЬКАЎ ЖАРТ

У сорак сёмым годзе Сож быў яшчэ судаходнай ракой,і з Гомеля ў Слаўгарад хадзіў пасажырскі параход. А адразу пасля крыгахода буксіры цягнулі вялікія баржы вышэй па цячэнні ў Гронава, дзе грузіліся лесам,які па Днярпы буксіравалі на Украіну.

Для многіх жыхароў Слаўгарада рака была вельмі істотным сродкам існавання. Голад — не цётка,таму найбольш спрытныя,нягледзячы на забарону,лавілі рыбу брэднямі,сеткамі,крыгамі і ўпотай гандлявалі ёй. Але большасць рабілі гэта з дапамогай звычайнай вуды, для сябе. Дзве-тры гадзіны зранку — і заўсёды нешта ў вядзёрку будзе. І тады на дзень-два знікала нішчымніца ў хаце. Тыя плоткі ці вокуні хлеб не замянялі,але ўсё ж — не пустое шчаўе сёрбаць.

Аднойчы,калі я прынёс некалькі невялічкіх плотак,бацька мне параіў:

— Ты вось што, схадзі пад першы Пронскі мост. Там ужо калі спаймаеш,дык будзе што ў хату несці — не гэтую дробязь...

Паслухаўся я бацьку і на наступны дзень на світанку пайшоў да першага Пронскага маста. Пад ім была невялікая азярына,якая ў веснавую паводку злучалася з Проняй,а калі вада спадала, рабілася ізаляваным возерам, дзе вадзілася рыба, але з-за вялікай глыбіні там не было чаго рабіць з крыгай ці брэднем. З вудамі там таксама ніхто не сядзеў.

Агледзеўся я і выбраў "вакно" сярод сцяны чарота. Змерыў глыбіню і здзівіўся: амаль чатыры метры! Начапіў на кручок тоўстага чарвяка і закінуў.

З паўгадзіны паплавок стаяў нерухома, а потым раптоўна знік пад вадой. Усё адбылося так нечакана,што я нічога не зразумеў. І толькі адчуўшы,што лёску цягне ў глыбіню,ухапіўся за вудзільна і ў той жа момант зразумеў,што чарвяка пакаштавала добрая рыбіна. Хвілін праз пяць падцягнуў да берага вокуня. Сэрца ад радасці пусцілася ў скокі, бо быў ён велічынёй з растаптаны лапаць.

З дапамогай адчэпа зняў вокуня з кручка, таропка начапіў чарвяка і зноў закінуў вуду. Клюнула амаль адразу. І ўсё паўтарылася.

Той, каму хоць аднойчы пашанцавала на звычайную вуду злавіць вялікую рыбіну, зразумее мой стан, калі я за паўгадзіны выцягнуў шэсць — адзін да аднаго — вокуняў, кожны з якіх (як потым узважылі) быў па 800 грамаў!

Калі я прынёс улоў дамоў, бацька здзіўлена глядзеў на гарбатых прыгажуноў і з недаверам спытаў:

— Там лавіў, дзе я табе параіў?

А назаўтра прынёс з таго ж месца вокуня, які важыў кіло трыста.

Вось тады бацька і прызнаўся, што пажартаваў, параіўшы мне гэтае месца пад Пронскім мастом, а калі ўбачыў мой улоў, не вытрымаў і пайшоў сам.

Добры атрымаўся жарт, бо амаль тыдзень елі смачную юшку і смажаную рыбу.

## ХТО РАНА ЎСТАЕ...

Адразу пасля дэмабілізацыі з войска жыў я з бацькамі ў Чэрыкаве. Маці ўставала першай, гатавала сняданак і толькі тады будзіла мяне, бо паспаць я быў вялікі аматар.

Аднойчы прачнуўся ад голасу маці: "Хто рана ўстае, таму Бог падае...". Я расплюшчыў вочы. Маці загадкава ўсміхалася.

— Уставай, сыночак, што я табе пакажу!

Я падняўся і пайшоў услед за маці. Яна выцягнула з падпечча трубку чорнай тканіны, якую ва ўжытку звалі "чортава кожа".

— Вось глядзі, што я знайшла!

— Дзе, калі? — здзівіўся я.

— Пайшла да студні, а яно на дарозе ляжыць. Я агледзелася, нікога — за яе і дамоў... — І глядзіць мне ў вочы, чакаючы, як адрэагую. — Ты толькі бацьку нічога не кажы, бо ён адразу прымусіць у міліцыю аднесці. А там жа яны сабе і забяруць! А ўжо калі аддаваць, дык таму хто загубіў, ці каго скралі. Таму давай пачакаем, сынок...

На тым мы і пагадзіліся, што бацьку пакуль нічога не скажам, а пачакаем. Бо калі гэта загубіў злодзей, які залез у краму, дык сёння ж ці заўтра пра гэта будзе вядома. І тады вернем знаходку.

Чакалі амаль месяц, але ўсё ціха. Тады ўжо расказалі бацьку. Ён маўчаў нейкі час, а потым сказаў:

— Напэўна гэта скрадзена не ў нас, таму несці зараз у міліцыю не варта, бо забяруць сабе і на тым справа скончыцца...

## УКРАІНСКІ БОРШЧ

Пазнаёміліся мы ў ліпені 1947 года каля дошкі аб'яў прыёмнай камісіі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, адшукваючы сябе ў спісе залічаных на першы курс.

Мы — гэта Васіль Цароў, Іван Петухоў, Васіль Голубеў і я. Два капітаны і два малодшых лейтэнанты ў нядаўнім сваім франтавым жыцці.

Цароў з Петуховым рускія, Голубеў — украінец, а я — беларус. Гэта нам не зашкодзіла знайсці паразуменне, што перш за ўсё трэба вырашыць пытанне з месцам у інтэрнаце, які на той час быў адзін на ўсю акадэмію.

У дэканаце даведаліся, што засяленнем займаецца камендант інтэрната — таксама дэмабілізаваны афіцэр. Хутка знайшлі паразуменне. Ён прывёў нас на другі паверх інтэрната і паказаў пакой без дзвярэй, падлогі, з выбітымі шыбамі.

— Вось вам жытло. Матэрыял — дошкі, цвікі, шкло, фарбу дам, зробіце — жывіце!

Праз тыдзень мы нават пафарбавалі падлогу, вакно і дзверы. Паставілі ложкі, стол. Мне, як сапёру, даручылі зрабіць табурэткі і палічку. Калі і гэта было гатова, запрасілі камендата на ўлазіны.

З вакна нашага пакоя было бачна поле вучэбнай гаспадаркі акадэміі, на якім ладны кавалак быў засаджаны памідорамі. Іх, пільна ахоўваў інвалід першай сусветнай вайны з дубальтоўкай. У бінокль было добра бачна, што спелых памідораў шмат.

Васіль Голубеў неяк і кажа:

— Капуста ў нас ёсць, ды яшчэ цыбуля і шматок сала, вядро ў дзяўчат пазычым, вырашым праблему з памідорамі і прыгатую я вам сапраўдны украінскі боршч — за вушы не адцягнеш!

Прапанова спадабалася, бо аднаразовае харчаванне ў студэнцкай сталоўцы толькі выклікала няспыннае жаданне паесці, і таму пачалі думаць, як падлашчыцца да дзеда, каб ён даў памідораў?

І надумалі мы тады "камандзіраваць" да дзеда Васіля Царова. Як-ніяк, а служыў пасля вайны ў камендатуры ў Празе, сустракаўся з прэзідэнтам Чэхаславаччыны Бенешам, сведка таму фотакартка, якую мы ўсе бачылі. Значыць ён лепей за ўсіх нас зможа з дзедам развесці патрэбную дыпламатыю.

Падрыхтавалі яго як след: начапілі на ягоны афіцэрскі кіцель усе нашыя ўзнагароды. А ў кожнага з нас было па два ордэны і па тры-чатыры медалі. Атрымаўся добры іканастас — вачэй не адвядзеш!

Паклаў Васіль у кішэню пачак "Беламора", узяў трафейную тэчку з жоўтай скуры з бліскучымі зашчэпкамі. І пайшоў наш "дыпламат" пад перазвон медалёў на адказнае баявое заданне. А мы па чарзе за ім у бінокль назіралі.

Як толькі Васіль падышоў да дзеда, той падскочыў і рукі па швах, як перад генералам! Васіль дастаў "Беламор", працягнуў пачак дзеду. Уселіся яны побач і аб нечым гамоняць. Шкада, што нам нічога не чутна.

Доўга яны так сядзелі. Мы ўжо засумняваліся ў поспеху задуманага. А дзед урэшце ўзяў тэчку і пайшоў разам з Васілём да сотак. Там яны ўдвох зрывалі памідоры і клалі ў тэчку.

Дзед праводзіў Васіля аж да дарогі. І па тым, як Васіль перакладваў з рукі ў руку раздзьмутую тэчку, было бачна, што сапраўдны украінскі боршч нам гарантаваны.

Так яно ў той дзень і было. І ў наступныя, пакуль не скончыліся на палетку памідоры.

Што праўда, то праўда — боршч Васіль гатаваў такі, што вядро з'ядалі за два разы...

## ХАБАР

Было гэта ў жніўні сорак сёмага года. Пайшоў я на золаку на Сож пасядзець з вудай. Спусціўся з крутога берага і накіраваўся да свайго прывычнага месца, каля цудам утрымаўшагася ў паводку, нахіленага да вады ладнага ўжо дубка.

Падышоў і спыніўся ў роздуме. З вечара якраз на гэтае месца падцягнулі баржу, і яна амаль напалову перакрыла самае ўлоўнае месца.

Цішыня, над вадой стаіць белым покрывам туман. Сяджу, назіраю за паплаўком. Лавіў на хлеб, і трэба было пільна сачыць за паплаўком, каб перахітрыць плотку і зрабіць падсечку перш, чым плотка сцягне хлеб.

Раптам чую, як з баржы па прыстаўленых сходах нехта ідзе. Павярнуў галаву і бачу мужчыну, які трымае дзвюма рукамі за спіной мех з нечым і, азіраючыся па баках, таропка спускаецца на бераг. Пайшоў у мой бок, мяне не бачыць. Параўняўся, я і кажу:

— Што цяжкае нясём?

Мужчына здрыгануўся, выпусціў з рук мех, упаў на калені і як бы знямеў. Я падумаў, што яму дрэнна.

— А ну ўставай!

А ён раптам абхапіў мой бот рукамі і ажно трасецца.

— Не губі, добры чалавек, дзеці малыя сіратамі застануцца! Не злодзей я, жыццё прымусіла. У хаце даўно ўжо ні каліўца солі, а можа, ж Бог дапаможа парсючка падгадаваць, дык як без солі?

— Дык ты што, украў на баржы соль?

Не адпускаючы маю нагу, мужчына заплакаў. Я разгубіўся.

— Не злодзей я, усё жыццё чэсна ў калгасе працую, жыццё прымусіла! Адпусці ты мяне, век за цябе ўсе будзем бога маліць! Адпусці!

І тут я здагадаўся, што прычынай такіх паводзінаў мужчыны была мая вайсковая форма. У тыя гады ў кэгэбэшнікаў было ў модзе хадзіць у форме, але без пагон. Трэба было неяк выходзіць са становішча ў якое я трапіў.

— Устань! — строга сказаў я. — І хуценька ідзі адсюль, пакуль яшчэ нехта не ўбачыў цябе. І дзякуй Бога, што я сёння не на службе, а інакш... — І я замаўчаў, бо не ведаў, што казаць далей. Але і гэтага для яго хапіла. Ён нечакана схапіў маю руку і пацалаваў.

— Гэта яшчэ што такое! — ужо зусім начальніцкім тонам сказаў я.

Мужчына раптам, трасучыміся рукамі пачаў нешта шукаць у сваіх кішэнях. Выцягнуў сто рублёў і працягнуў мне.

— Вазьмі, добры чалавек, не грэбуй! Гэта ўсё, што ў мяне ёсць...

— Ты што, за краты захацеў? А ну, бяры свой мех, і каб я цябе праз хвіліну не бачыў!

Ён моўчкі ўзваліў мех на плечы і знік у кустах ляшчыны.

Я павярнуўся, каб пайсці да вуды, і бакавым зрокам заўважыў на пяску сторублёвую паперчыну, з якой глядзеў чалавек, упэўнены ў шчаслівым жыцці тых, каго ён пакінуў...

*Фелікс ШКІРМАНКОЎ*



*Фота А. КЛЕШЧУКА*

# Каб захаваць сябе...

## СКАЗЫ ЛУКАША КАЛЮГІ

Перыяд 20—30-х гадоў мінулага стагоддзя — трагічна-парадаксальны час у гісторыі беларускай літаратуры. Ва ўмовах паскоранага развіцця наша літаратура пашырыла ідэйна-тэматычныя дыяпазоны творчага адлюстравання рэчаіснасці, узяла на ўзбраенне новыя мастацкія метады і прыёмы і пачала засваенне “злабадзённых” жанравых форм: фельетон, памфлет, гумарыстычна-сатырычнае апавяданне, сказ. Апошні з пералічаных жанраў — сказ, маючы старажытны генезіс і арганічна відазмяняючыся ў ходзе развіцця літаратуры, у першай трэці XX ст. канчаткова замацоўвае ўласна-жанравую спецыфіку. У беларускім літаратуразнаўстве гэты жанр дэталёва яшчэ не вывучаны і патрабуе аналізу для вызначэння асаблівасцей бытавання твораў сказавай пабудовы ў нацыянальным літаратурным працэсе.

Сярод мастацкай прасторы спрошчана-вульгарызатарскай літаратуры ў творчасці выдатных беларускіх празаікаў (М. Гарэцкага, А. Мрыя, В. Ластоўскага, Л. Калюгі і інш.) прадоўжыліся лепшыя нацыянальныя традыцыі. Забыццё, што напаткала вышэй названых пісьменнікаў, было абумоўлена іх апазіцыйнасцю ў адносінах да часу, прынцыповасцю і “нягнуткасцю” творцаў перад рэаліямі існавання.

Вывучэнне творчасці Л. Калюгі (Кастуся Вашыны) пачалося ў нядаўні час: так, у 1989 годзе выходзіць кніга І. Чыгрына “Крокі: Проза “Узвышша”, дзе змешчаны артыкул “Лукаш Калюга: ля вытокаў эпічнай прозы”, які стаў удалай спробай адкрыцця для шырокай грамадскасці самабытнай постаці празаіка. У 1992 годзе, дзякуючы намаганням Я. Лецкі, з'яўляецца збор твораў Калюгі з прадмовай даследчыка, у якой разглядаецца жыццёвы шлях пісьменніка і аналізуюцца яго творчыя здабыткі. У 1997 годзе пабачыла свет кніга З. Драздовай “Творчасць А. Мрыя і Л. Калюгі: Стылявыя асаблівасці”. Даследчыцай адзначаецца непаўторнасць і нацыянальная самабытнасць твораў Калюгі, у тым ліку і яго апавядальнага эпасу сказавай формы. Зварот пісьменніка да дадзенага жанру быў абумоўлены шэрагам прычын. Сярод так званых “вонкавых” абставін трэба прыгадаць неспрыяльнасць часу для адкрыта-палемічных выступленняў грамадска-нацыянальнай накіраванасці. Таму Л. Калюга і звяртаецца да мастацкай дзейнасці, у прыватнасці, да гумарыстычна-сатырычнай прозы, бо здаўна вядомы апазіцыйны характар смеху ў адносінах да “змярцвелых” формаў быцця і свядомасці. Смех “выклікае першасную хаатычнасць” (Д. Ліхачоў), тым самым нішчыць звыклыя стэрэатыпы. Да таго ж даследчыкі творчасці Калюгі адзначаюць цікавасць пісьменніка да вусна-паэтычнай творчасці беларусаў, у якой празаік бачыў не толькі духоўна-мастацкую скарбніцу, але і магчымасць раскрыцця нацыянальнай самабытнасці народа. З. Драздова адзначае: “Пісьменніка найбольш цікавіць тое, што на пэўны час у літаратуры 20-х гадоў... адышло на другі план — прыроджанае, псіхалагічнае ў чалавеку... У полі зроку Калюгі — тое, што розніць чалавека ад іншых, выяўляе яго унікальнасць”. У час, калі адбываецца ўтрырыўка ўсіх унікальна-нацыянальных катэгорый, было важна захаваць гістарычную памяць і ментальнасць народа. Гэтую творчую задачу і рэалізоўваў Л. Калюга ў сваіх даходлівых па форме і філасофска-прытчавых па змесце сказах, галоўны герой якіх — чалавек-унікум, дзівак, што жыве па сваіх законах і ў сваім часе. Гэты вобраз пераходзіць з аднаго твора пісьменніка ў другі (“Лук'ян — каперацыйскі сабака”, “Трахім з Пагулянкі”, “Трахім — штучны чалавек”, “Іллюк-даследчык”, “Тахвілін швагер” і др.), прычым трансфармацыя персанажа адбываецца толькі ў яскасным плане раскрыцця яго багатай натуры з нечаканых ракурсаў. Сацыяльна-бытавы план сказаў Л. Калюгі рэалізуецца пры вырашэнні ў творах хвалюючых пытанняў, якія знаходзяць выйсці не толькі ў адлюстраванні тагачасных рэалій, але і ў пазачасавай прасторы.

Заўважаецца цікавая асаблівасць, звязаная з мастацкім часам у сказах Калюгі: усе творы прысвечаны падзеям з дарэвалюцыйнай рэчаіснасці, зварот да якой быў прадвызначаны, па-першае, неспакоем празаіка пра захаванне нацыянальна-культурнай самабытнасці беларусаў, а гэта праблема была востра актуальнай і ў перадрэвалюцыйны час, па-другое, зварот да мінулага быў неабходны для канчатковага разумення сучаснага на той момант грамадска-палітычнага становішча. З улікам часу форме прамоў-сказаў празаік надае нерытарычна-дыдактычны план, а філасофска-камічнае напаўненне. Гэта дапамагае дасягнуць даходлівасці і глабальнасці ўспрымання твораў. Думаецца, што зварот Калюгі да сказавай прозы быў прадвызначаны і тым, што традыцыйная формула архітэктонікі твора, якая трымаецца на чатырох складаючых: аўтар—апавядальнік—слухач—чытач, дазваляла аўтару стаць выразнікам тыповага, масавага голасу. Адметнасцю стылю Калюгі з'яўляецца і тое, што ў яго сказах заўважаецца пэўная творчая праекцыя пабудовы мастацкага свету: праз адзінкавы вобраз чалавека-унікума празаік абмалёўвае рысы нацыянальнай ментальнасці і праз выпадковасці і нечаканыя здарэнні ідзе да шырокай прасторы народнага жыцця. Невыпадкова К. Чорны гаварыў аб тым, што Л. Калюга “богам дадзены талент”. Сказы пісьменніка адзначаюцца вострай канфліктнасцю, абумоўленай сутыкненнем галоўнага героя з часам і абставінамі, у выніку чаго апавядальнае палатно набывае рысы альбо драматычнага, альбо камічнага гучання. Адносна супярэчнасці, неадпаведнасці героя і часу, неўладкаванасці персанажа ў новых абставінах аўтар адкрыта гаворыць у творах: “Цяпер не тое. Другі свет пайшоў, “Тады Трахім хваліць даўнейшы свет. Такая то-бо тады выгада была...” Шэрасць і аднастайнасць жыцця, закасцянеласць яго правіл — усё гэта паслужыла матывацыяй да стварэння яркіх, каларытных вобразаў, якія здзяйсняюць свае парадаксальна-камічныя ўчынкі.

Мастацкія пошукі нацыянальнай унікальнасці прывялі празаіка да стварэння вобраза-тыпа, аб абагульненасці, тыповасці якога гаворыць і той факт, што пісьменнікі не дае дэталізаванага партрэта свайму герою, а змяшчае ў творах толькі лаканічныя характарыстыкі-эпітэты: “непрыбытковы” (“Лук'ян — каперацыйскі сабака”), “валачашчай натуры” (“Трахім з Пагулянкі”), “Трахім — штучны чалавек” (назва сказа ўжо з'яўляецца ацэнкай персанажа), “нікчэмны”, “шалахвост” (Іллюк-даследчык”). Гэтыя характарыстыкі ствараюць уражанне непрацавітасці, гультайства “дзівака”, перадаюць яго пасіўна-прыгнечанае стаўленне да навакольнай рэчаіснасці. Але, гэта ўяўнае меркаванне, бо такія адносіны героя да быцця — засцерагальная функцыя захавання сябе ў “пераломны час”. Гультайства “дзівака” абумоўлена бессэнсоўнай, душэўна спусташальнай фізічнай працай. Грамадская пасіўнасць — маска, за якой схавана жаданне змяніць жыццё ці, ад немагчымасці гэтага, хаця б пакпіць з яго.

У творы “Лук'ян-каперацыйскі сабака” выклікае цікавасць вобраз галоўнага героя селяніна Лук'яна, які вылучаецца натурай супярэчлівай, і, што важна, праяўляе сваю неардынарнасць менавіта пры сутыкненні з супярэчлівым, неўладкаваным светам. Як адзначае аўтар, Лук'ян мае характар “абрыдзоны” (непрыемны — **В. П.**) Толькі глядзіць, каб каго на якім слове паймаць. Каб з каго рогат справіць. Пры гэтым ён карыстаецца павагай у людзей, якая мяжуе з боязню атрымаць у свой адрас трапную характарыстыку. Вобраз Лук'яна абмаляваны празаікам пяшчотна-гумарыстычнымі фарбамі, а смех носіць добразычлівы, “пацешлівы” характар. Камізм у творы з'яўляецца сродкам раскрыцця стаўлення аўтара да меркантыльна-практычных інтарэсаў людзей і выступае ў якасці стрыжнявога прынцыпа апісання багатай натуры селяніна.

Гэты тып народнага характару знаходзіць адлюстраванне ў творы сказавай пабудовы “Трахім з Пагулянкі”, які вызначаецца шэрагам асаблівасцей у кампазіцыі і змесце. Кампазіцыя сказа ўскладняецца наяўнасцю рэтраспектыўнай часткі, напісанай па прынцыпе “гісторыя ў гісторыі”, што маляўніча ілюструе погляды героя на бессэнсоўную працу дзеля працы. Трэба адзначыць, што ў гэтым сказе аўтар дае эскізна пазначаны партрэт галоўнага героя: “Якому чалавеку дык Трахімаў кажух быў бы толькі па калені, а то й вышай, а яму самому — шчупленькаму, нізенькаму, крыху сівенькаму чалавечку — па самыя костачкі займае”. Як бачым, рысы знешнасці — агульныя, традыцыйныя, але яны перадаюць аўтарскую пазіцыю да героя: партрэт намаляваны душэўна, з замілаваннем і павагай (на гэта ўказвае не толькі фармальная прыкмета — памяншальна-ласкальныя суфіксы, але і агульны падбор слоў), да таго ж падкрэсліваецца свайго роду непрапарцыянальнасць, неадпаведнасць Трахіма вонкаваму свету, што заўважаецца, пачынаючы ад несуразмернасці адзення героя, парушэння ім звыклых жыццёвых правіл і да стварэння ўласнай філасофіі быцця. Пісьменнікам адзначаецца: “Не любіць Трахім надта кешкацца з работаю... яму абы барджэй з рук”. Гэта своеасаблівае “выпадзенне” асобы з замкнёнага кола грамадскай умоўнасці. Праблема твора, як заўважаецца, трагічная, але ў дыялектычным адзінстве жыццёвых рэалій палярна супрацьлеглыя каардынаты трагізму і камізму часам могуць мяняцца месцамі.

Жыццёвыя філасофія селяніна Трахіма трымаецца на тым, што “ўвесь свет у яго... на глупстве стаіць”, таму, каб захаваць сябе, трэба апранаць маску, за якой хтосьці можа ўбачыць ілгуна “валачашчай натуры”, а ў сапраўднасці тут схаваны адкрыты для ўсіх, з даверлівай дзіцячай душою чалавек: “Ці то бяду, ці то вясёласць — усё Трахім на людзі нясе”. Гэта “дзяцінасць” героя падкрэсліваецца на працягу ўсяго твора, найперш у апісанні знешнасці і адзення, у пастаянным жаданні Трахіма гуляць, жартаваць, свавольнічаць: “Толькі ж клопату ў старога каб дзе забавіцца”. Нарэшце, яго анекдатычныя ўчынкі таксама патрабуюць аналітычных заўваг адносна іх матывацыі. Праз вобраз Трахіма ідзе мастацкая рэалізацыя аўтарскай заклапочанасці праблемай самазахавання народа, яго лепшых якасцей: душэўнасці і спагадлівасці, спрадвечнага розуму і шчырасці.

У наступным сказе пад назвай “Трахім — штучны чалавек” герой спрабуе далей развіць сваю “апазіцыйную” філасофію быцця і эмпірычным шляхам “ён... дазнаўся, як чалавеку на свеце жыць. Трэба работу ад першага дня кідаць рабіць і памаленьку патроху адвыкаць есці”. Пры перадачы думак Трахіма заўважаецца аўтарская “падсветка” камічнага падтэксту. Каб паказаць абсурднасць прапанаваных ідэй, пісьменнік карыстаецца гіпербалічна — гратэскнымі сродкамі, а ў сцэне практычнага прымянення галоўным героем асабістых тэарэтычных высноў персанаж, пра якога Калюга кажа, што ён “разумнейшы за... абодвух”, паказаны спачувальна-іранічна. У фінале сказа аўтар зноў ускладняе кампазіцыйную арганізацыю твора ўключэннем гісторыі ў гісторыі пра цыганскую кабылу, якую гаспадар адвучаў піць, не даючы есці. Прытчава-алегарычная па змесце яна дазваляе слухачам зрабіць больш важкія высновы адносна прапанаваных эксперыментаў і ўзмацняе камічны эфект твора, праводзячы іранічную паралель паміж “дурной” кабылай і селянінам.

Вызначальнай асаблівасцю сказа “Іллюк — даследчык” з'яўляецца не толькі зацікаўленасць празаіка ў адлюстраванні ўнутранага свету героя, але і распрацоўка вобраза — антаганіста яго жонкі Альжы. У творы пры працэсе стварэння вострa канфліктных сітуацый ідзе раскрыццё не толькі галоўных герояў, а і трапная характарыстыка акаляючага іх сацыяльнага асяродка. Кульмінацыйнай сцэна каларытнай бойкі Іллюка і Альжы стала апагеем выкрыцця закасцянелай маралі, згодна якой глядзенне на такога роду відовішчы было лепшым заняткам, таму “злодзеі і так сабе людзі — усе ля Іллюковай хаты сабраўшыся былі”. Адпаведна і галоўныя дзеючыя асобы, дэманструючы сапраўдны спектакль, думалі аб тым, каб ““бы толькі людзі пагледзелі, а больш нічога... не трэба”” У творы заўважаецца горкая іронія з прычыны недарэчнасці і бессэнсоўнасці такіх выпадкаў у чалавечым існаванні, а таксама папярэджанне пісьменніка такім неабачлівым людзям аб трагічных наступствах.

Напрыканцы нашага артыкула адзначым, што ў сказах Лукаша Калюгі адчуваецца аўтарскае папярэджанне аб небяспецы тагачасных сацыяльна-палітычных тэндэнцый: палітыкі дэнацыяналізацыі і адчужэння ад Зямлі. У супрацьвагу ім празаікам быў створаны свой антысвет, трываласць якога прадвызначана універсальнасцю смеху, пры гэтым адбываецца не прамое высмейванне рэчаіснасці, а збліжэнне яе са “смехавым “ізнаночным” светам. Пры збліжэнні страчвалася смехавая сутнасць “ізнаночнага” свету, ён рабіўся сумным і нават жахлівымі”. Далейшы лёс Беларусі, увасоблены ў творах Л. Калюгі ў вобразе вёскі Баркаўцы, бачыўся пісьменніку абнадзейлівым, бо “Баркаўцы вёска ўпартая: ёй пажар зычаць, а яна шчэ больш садамі ды вішняком урастае — і не знайся”.

**В. ПАДСТАЎЛЕНКА**

*г. Віцебск*

ПАМЯЦЬ

# Урокі Віктара Каваленкі

У гэтыя дні спаўняецца год, як не стала Віктара Антонавіча Каваленкі, крытыка і літаратуразнаўцы, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, члена-карэспандэнта АН Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай і літаратурнай прэмій, вядомага вучонага, таленавітага кіраўніка, прыгожага чалавека... Але засталіся кнігі, бо напісанае, як вядома, ні знікае бясследна...

Урокі і запаветы Віктара Каваленкі...

Упэўнена — іх багата. Нам яшчэ трэба дайсці да іх, расчытаць і асэнсаваць. Іх значнасць і, відавочна, веліч, не сумняваюся, убачацца беларускім літаратуразнаўствам праз гады...

Віктар Каваленка належыць да пакалення "шасцідзесятнікаў", якое вельмі многа зрабіла для разняволення тагачаснага грамадска-культурнага, навуковага, духоўнага жыцця на Беларусі. Кагорта беларускіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў-шасцідзесятнікаў, дзе поруч з В. Каваленкам былі А. Адамовіч, І. Навуменка, М. Ярош, В. Івашын, У. Калеснік, М. Грынчык, Г. Кісялёў, С. Гусак, М. Стральцоў, П. Дзюбайла, А. Лойка, В. Палтаран, М. Мушынскі, А. Яскевіч, А. Мальдзіс, Д. Бугаёў, А. Семяновіч і іншыя, зрабіла неацэнна многа для вызвалення беларускага літаратуразнаўства ад вульгарнай сацыялогіі. Інтэлектуальнымі высілкамі менавіта гэтага пакалення ў 60-я гады і наступныя дзесяцігоддзі шукаліся і выпрацоўваліся метадалагічныя прынцыпы і аб'ектыўныя крытэрыі навуковага даследавання літаратуры мінулага і цяперашняга літаратурнага працэсу.

Слова і імя Віктара Каваленкі, крытыка і літаратуразнаўцы, заўсёды было "абяцаннем і гарантыяй зусім пэўнай грамадзянскай пазіцыі, ...добрай кваліфікаванасці (А. Адамовіч).

У другой палове 70-х гадоў, насуперак "застойным" тэндэнцыям у грамадскім жыцці, наша літаратуразнаўства адчула ўнутраную неабходнасць навукова абгрунтаваць важнейшы метадалагічны прынцып гістарызму, які яшчэ з 30-х гадоў падмяняўся паняццямі "канкрэтны гістарызм", "усвядомлены гістарызм". Тэарэтычнае абгрунтаванне гістарызм як метадалагічны прынцып атрымаў у 70-я гады ў працах С. Александровіча, І. Навуменкі, М. Мушынскага, М. Грынчыка, М. Лазарука, А. Лойкі, У. Гніламёдава.

Важкі і змястоўны ўклад у даследаванне і ўдакладненне гэтай важнай навуковай праблемы належыць В. Каваленку. Сведчанне таму — хаця б старонкі яго манаграфіі "Праблемы сучаснай беларускай крытыкі" (1977). Даследчык рупіўся, каб тагачасныя крытыка і літаратуразнаўства пазбягалі схематызму і павярхоўнасці пры асэнсаванні літаратурных твораў як сучаснасці, так і мінулага. Іх мастацкую праўдзівасць ён прапаноўваў правяраць не толькі адпаведнасцю фактам жыцця. Вучоны слушна сцвярджаў, што глыбокі і сапраўдны сэнс мастацкага твора пазнаецца толькі ў кантэксце яго гістарычнага функцыянавання: "Усякае асэнсаванне пачынаецца з суаднясення існавання той ці іншай з'явы з патрабаваннямі гістарычнага працэсу ў дадзены момант". Пры тагачасных дасягненнях беларускага літаратуразнаўства ў вывучэнні літаратурнай спадчыны, абгрунтоўваў свой погляд В. Каваленка, "пры самай высокай ацэнцы канкрэтных навуковых прац, прысвечаных разгляду мастацкіх з'яў мінулага, відавочна, што прынцып гістарызму ў вывучэнні гісторыі літаратуры ў нас праводзіцца яшчэ не заўсёды паслядоўна. Не так і рэдка мы ўсё гушкаемся на арэлях велізарнай разбежкі: або мадэрнізуем падыход да мінулага і тады амаль поўнасцю закрэсліваем дасягненні папярэдніх дзесяцігоддзяў, або падатліва ідзём за мастацкімі творамі, апісваючы са значэннем усё, што пападае нам у рукі. Наўрад ці выратуе нас і асцярожненькая пазіцыя, якая чамусьці лічыцца часам дыялектыкай, — "трохі пахвалім, трохі паганім", — бо яна механічная, эклектычная..."

Здзівімся, як надзённа гучаць і сёння гэтыя радкі, напісаныя амаль трыццаць год таму!..

В. Каваленка, як нам сёння падаецца і ў чым можна пераканацца, перачытаўшы яго працы, клапаціўся закласці асновы навуковага гісторыка-функцыянальнага літаратуразнаўства. Ён прынцыпова даводзіў: "Патрэбна жывая практыка літаратурнай навукі, якая б заўсёды адчувала сувязь з гісторыяй як ніколі неадменную ўнутраную задачу, як абавязковую ўмову вырашэння літаратурных праблем незалежна ад таго, ці яны звязаны з гісторыяй літаратуры, ці належаць сучаснасці. Мінулае і сучаснае ў гістарычным працэсе складаюць важнае адзінства.

Прынцып гістарызму не можа паглыбіцца і развіцца ніякім іншым шляхам, як толькі праз выпрацоўку правільнага падыходу ў канкрэтным аналізе літаратурных з'яў".

Тагачаснае беларускае літаратуразнаўства ў асобе В. Каваленкі і яго калег-навукоўцаў набывала высокі інтэлектуальна-эстэтычны ўзровень. Разумеючы, што праблема сувязі сучаснасці і гісторыі надзвычай складаная метадалагічна, В. Каваленка яшчэ ў другой палове 70-х гадоў папярэджваў ад просталінейнасці і спрашчэнняў у даследаванні літаратуры мінулага, бачыў усю складанасць праблемы, пераконваў, што навуковае літаратуразнаўства і крытыка павінны браць на ўлік няпростую ў філасофска-ідэалагічных, палітычных адносінах пераемнасць літаратурных і грамадскіх эпох і часоў. Вось, напрыклад, як слушна ён пісаў, папярэджваючы літаратуразнаўцаў ад легкадумнасці пры вонкава падманлівай прастаце задач гісторыка-літаратурнага даследавання: "Праблема адносін да мінулага была заўсёды адной з важнейшых рыс ідэалагічнага жыцця нашай краіны. Тэарэтычнае і практычнае вырашэнне менавіта гэтай праблемы шмат у чым вызначае спеласць грамадскай думкі і дзейнасці".

Літаратуразнаўцамі 60—70 гадоў у тэарэтычным плане ставіліся пытанні аб сучасным падыходзе да спадчыны, да прыёмаў асэнсавання глыбіні сэнсу твора і яго сучаснага ўспрымання. Але, як гэта трапна заўважае В. Каваленка, літаратуразнаўцы спыняліся недзе на паўдарозе. Адвяргаючы састарэлыя дагматычныя погляды на літаратурную спадчыну, некаторыя даследчыкі часта залішне "асучаснівалі" яе, "заклікалі глядзець на мінулае толькі праз прызму сучаснасці". Вучоны настойліва пераконваў, што сучасны аб'ектыўны погляд на гісторыю з'яўляецца неабходным грунтам і ўмовай прынцыпу навуковага гістарычнага літаратуразнаўства: "Сучасны падыход ёсць разам з тым умова і сродак пазнання не толькі тых з'яў гісторыі, сэнс якіх надзённы, але і сапраўднай, аб'ектыўнай сутнасці гістарычнага сэнсу..."

На жаль, у 70-я гады Віктар Антонавіч, як і ўсе яго сучаснікі і як усё тагачаснае літаратуразнаўства, вымушаны быў спыняцца на паўдарозе да тэарэтыка-метадалагічных адкрыццяў. Ён пісаў, што "няварта, відаць, драматызаваць стан няяснасці ў коле агульных метадалагічных пытанняў", у тым ліку, і адносна даследавання літаратуры мінулага. "...Да гонару савецкай тэарэтычнай навукі ў нас даволі глыбока распрацаваны на аснове марксісцка-ленінскага вучэння агульнаметадалагічныя палажэнні адносін да спадчыны мінулага..."

В. Каваленка раіў разглядаць мастацкі з'явы ў шырокім кантэксце з грамадска-палітычным, сацыяльна-філасофскім, ідэйна-эстэтычным жыццём, вучыў бачыць разнаякасную, багатую, колеравую гаму ўсёй эпохі, перасцерагаў ад маласэнсоўнага пошуку аналогій сучаснага з мінулым: "Аб'ектыўны погляд на гісторыю азначае адлюстраванне шырокай перспектывы руху мінулага жыцця, а не толькі якой-небудзь асобнай яго крыніцы, што ўспрымаецца як адкрытая аналогія падзеям сучаснасці". Прычынай непатрэбнай мадэрнізацыі літаратуры мінулага, лічыў даследчык, можа быць "недастаковасць навуковых і літаратурных сіл, якія займаюцца вывучэннем мінулага". Такая несвядомая мадэрнізацыя, па назіраннях В. Каваленкі, часцей дапускалася літаратуразнаўцамі пры звароце да літаратуры 20—30-ых гадоў. Між тым, гэты час, асабліва 20-ыя гады, вучоны лічыў "самакаштоўнай старонкай духоўнай гісторыі беларускага народа... Яна застаецца нятленнай і неўміручай незалежна ад таго, ці будзе яна гаварыць з намі, з нашай эпохай на поўны голас, ці не..."

Распрацоўваючы тэарэтыка-метадалагічныя аспекты літаратуразнаўства ў "застойныя" часы, В. Каваленка абгрунтаваў філасофска-эстэтычны ў гуманістычны характар яго навуковых крытэрыяў. Ён, як уяўляецца сёння, прыспешваў тагачасную даследчыцкую думку, ставіў перад беларускім літаратуразнаўствам і крытыкай апераджальныя задачы: "Сучасны погляд на мінулае павінен служыць надзённым патрэбам дня толькі праз яшчэ глыбейшае раскрыццё агульнахарактэрнага, агульначалавечага. Гэта і ёсць крытэрый той меры сучаснага падыходу, які прыносіць карысць справе".

Вучоны добра разумеў, што ступень адкрыцця новых сутнасных аспектаў твора, напісанага ў мінулым, можа быць рознай. І гэта вызначаецца "ступенню навуковай вартасці самога падыходу", якая можа быць рознай. Галоўнае — спасцігнуць "сутнасны змест твора" (тэрмін В. Каваленкі), каб у пошуку сучасных прачытанняў не ігнараваўся ці не скажаўся гэты змест. У аснове даследчыцкага падыходу павінна быць чулае пранікненне і эпоху і мастацкі свет пісьменніка. У гэтым напрамку нястомна ў настойліва працавала даследчыцкая думка В. Каваленкі.

Яго навукова-літаратурная спадчына пераконвае ў глыбокім і гуманістычна ёмістым разуменні вучоным задач гістарычнага літаратуразнаўства. "Адкрыць і змераць агульначалавечыя глыбіні духу ў літаратурнай спадчыне мінулага — азначае садзейнічаць фарміраванню сапраўднага гістарычнага прынцыпу, важнага для метадалагічных асноў сучаснага беларускага літаратуразнаўства... Залішняе захапленне крытэрыем надзённасці не так і рэдка з'яўляецца пачаткам грубай выбіральнасці, расчлянення спадчыны на "патрэбную" і "непатрэбную", што перашкаджае вывучэнню яе духоўнага і эстэтычнага адзінства. Задача ў тым, каб шукаць у мінулым літаратуры не адны адкрытыя ідэйныя і вобразныя пераклічкі, а шукаць таксама агульначалавечы змест, душэўны вопыт чалавецтва. Гэтай задачы супрацьпаказаны як мадэрнізацыя, так і ўсяеднае апісальнае ўзвелічэнне".

В. Каваленка клапаціўся аб аб'ектыўнасці і гуманістычнай каштоўнасці прац беларускіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў, папярэджваў ад ненавуковых, легкаважкіх, кан'юнктурных ацэнак.

Багатая і змястоўная навуковая творчасць В. Каваленкі ўжо даўно стала і будзе надалей заставацца жывой і дзейснай часткай гісторыка-літаратурнага і філасофска-эстэтычнага жыцця на Беларусі. А ў ёй — запаветы для наступнікаў, урокі грамадзянскасці, навуковасці, інтэлігентнасці аўтарытэтнага настаўніка-літаратуразнаўцы: "прага духоўнасці", маральнасці, непадробны "голас чалавечнасці", "жывы покліч" да сумленнай і натхнёнай працы, да прафесійнай дасканаласці...

Перадамо ж гэта новым і лепшым пакаленням беларусаў!

**Зоя МЕЛЬНІКАВА,**
**дацэнт кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. Пушкіна**

# Зярно к зярняці...

З Маладзечна прыйшоў гасцінец — шосты нумар слыннага ўжо на Беларусі "Куфэрка Віленшчыны".

Куфэрак... Колісь у куфэрках нашы продкі захоўвалі самы дарагі свой скарб. От чаму маладзечанскі самаахвярнік Міхась Казлоўскі назваў свой адмысловы часопіс "Куфэркам". Адкінем жа вокладку-вечка Міхасёвага "Куфэрка" і падзівімся, што ў ім сёння, якім скарбам ён нас уцешыць.

На шмуцтытуле пазначана — нумар прысвячаецца народнаму паэту Беларусі Янку Купалу. І напраўду, першая публікатка — "Ён свету адкрываў зямлю сваю" — пра Янку Купалу. А літаральна праз колькі старонак успаміны Веры Ніжанкоўскай-Тарашкевіч пра Купалавага паплечніка, ягонага сучасніка Браніслава Тарашкевіча. Прачытаў я гэтыя яе згадкі і нібы з самой Верай Андрэеўнай пагаманіў. Пасля яе ўспамінаў уся гісторыя радашкаўскай сядзібы "Фэрма" набывае нарэшце сваю паслядоўнасць і выразнасць. Міхасёў "Куфэрак" якраз патрапіў да мяне ў той дзень сумнага пажару ў Радашкавічах — чатырнаццатага ліпеня. То няцяжка ўявіць, як чыталіся гэтыя ўспаміны. У іх кожны радок рабіўся помнікам. Не ведаю, ці снілася аўтарцы гэтых кранальных успамінаў, што неўзабаве, праз чатыры гады, на яе хатку абрынецца пажар і зруйнуе і яе апошняе жытло і яе апошняе прыстанішча. Але, хвала Богу, самае каштоўнае з агню выхапілі. Ды ёсць і ўспаміны. І не толькі рукапісныя, але і друкаваныя. Надрукаваныя якраз пад радашкаўскім пажар 2002 году.

Свае ўспаміны спадарыня Ніжанкоўская друкавала не адзін раз. Але гэтыя, што ў "Куфэрку", самыя прадстаўнічыя, ёмістыя. З іх, апрача Браніслава Тарашкевіча, як жывы паўстае і ейны дзядзька Аляксандр Уласаў з сваёй Мігаўкай. Нечаканкай для мяне была згадка і пра таямнічыя агеньчыкі ля Максімаўкі. Я пра іх таксама чуў, але не ад спадарыні Тарашкевічыхі, а ад жыхароў суседніх з Максімаўкай Шалухаў.

Зачапілі мяне ў "Куфэрку" за жывое і згадкі пра Юліяна Сергіевіча. Я быў з ім трошкі знаёмы і трохі ліставаўся. Лісты свае я перадаў Генадзю Каханоўскаму. Ён сказаў, што робяцца захады, каб выдаць кніжачку пра Юліяна Сергіевіча. То мне падумалася, што Сергіевічавы лісты будуць якраз дарэчы да гэтага выдання, і я перадаў іх Генадзю. Дзесь яны ляжаць у ягоным архіве. А лісты цікавыя. У іх развагі пра паэзію. Прынамсі, здаецца, і пра Багушэвічаву. З іншай нагоды я да людзей і не пісаў. Хацелася, каб гэтыя лісты былі абнародаваны ў "Куфэрку".

Неабыякава прачыталіся і нататкі Янкі Шутовіча пра нашага маэстру Пётру Сергіевіча. Мне таксама не адзін раз шчасціла гутарыць з выдатным мастаком. І што мяне асабліва ўразіла — гэта бядотнае жыццё творцы. "Бывала, — згадаў маэстра, — прачнемся з Драздовічам і думаем, дзе гэта нам сёння паснедаць, павячэраць... Дзе гэта што знайсці, каб голад прыглушыць". З цікавасцю прачытаў і ліставанне Паўліны Мядзёлкі з Генадзем Каханоўскім і Міколам Ермаловічам. З гэтага ліставання даведаўся пра такія рэчы, пра якія нават і не здагадваўся. Я колісь наведаў Паўліну Мядзёлку на Шаўчэнкаўскім бульвары ў Мінску. Мне тады і ў голаў не прыходзіла,




што ёй так кепска жывецца ў сваёй братавай. А от прачытаў — і праз гады зашчымела сэрца. У лістах Паўлінкі Мядзёлкі мне ўсё цікава: і змест, і мова, і яе аўтарскі імпэт. Чытаю: "Скепсцілася я за апошнія гады..." — і смакую слова "скепсцілася". І гэтак скрозь — якую публікацыю ні разгарні, то адкрыццё, то штось новае, малавядомае ці зусім невядомае з нашага беларускага жыцця — забытае, закінутае, занядбанае. Для мяне, прыкладам, вельмі карысная таксама публікатка самога рэдактара "Куфэрка" — "Адам" — пра колішняга радцу пры сенатары Аляксадры Уласаве, эканаміста, аўтара першага беларускага падручніка па эканоміцы Адама Бельдзюкевіча. Адам Бельдзюкевіч, між іншым, нарадзіўся таксама ў Радашкавічах.

Маладзечна, Маладзечаншчына...

Радашкаўскі абшар...

Ашмяншчына з Смаргоншчынай... Вілейшчына...

Гэта ўсё колішняя Віленшчына. Міхасёў "Куфэрак" з гэтага абшару, гэтага абсягу зробіць для нас яшчэ не адно адкрыццё. У гэтым краі ішло выспяванне і гартаванне нашай нацыянальнай свядомасці. Гэта ўсё "Куфэркавы" тэмы. Будзем з прагнасцю чакаць новых нумароў часопіса, хоць і разумеем, як яны фінансава даюцца Міхасю і ягоным паплечнікам-пабрацімам. Разумеем, часопісу патрэбна падтрымка. Але што рабіць, калі сёння беларускі чытач такі збяднелы... І ўсё ж "Куфэрак Віленшчыны" выходзіць і будзе выходзіць. Вытрываласці вам, маладзечанскія самаахвярнікі і апантанасці!

**У. СОДАЛЬ**

**Калектыў часопіса "Крыніца" выказвае глыбокае спачуванне свайму былому галоўнаму рэдактару Галіне БУЛЫЦЫ ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю маці.**

**Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выказвае глыбокае спачуванне былому супрацоўніку выдавецтва Пятру ПРЫХОДЗЬКУ ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю жонкі.**

# Музей у Старых Дарогах

***Прырода прыватнай ініцыятывы настолькі ўсеахопліваючая, што ёй падуладныя самыя незвычайныя праявы. Найбольш пераканаўча яна рэалізуецца ў сферы матэрыяльнай вытворчасці і паслуг. Але бывае, што плён прыватная ініцыятыва дае і ў духоўнай сферы. Гэта бывае не вельмі часта, затое — надзвычай вынікова. Адным з такіх прыкладаў па вартасці можна лічыць стварэнне, адкрыццё і працу музея выяўленчага мастацтва Анатоля Белага, што працуе ў Старых Дарогах. Спадар Белы — вядомы беларускай грамадскасці і як заўзяты калекцыянер, і як кіраўнік грамадска-асветніцкага клуба "Спадчына", і як патрыёт і абаронца роднай мовы. Сёння Анатоль Белы — госць нашай рэдакцыі і мы просім яго распавесці пра вытокі задумы, ажыццяўленне якой у нашых непростых эканамічных умовах можа лічыцца ўзорнай.***



— Ідэя стварэння такога музея з'явілася вельмі даўно. Спачатку я рабіў вялікую колькасць тэматычных выстаў. Сярод іх нагадаю толькі некалькі: "Любіць Радзіму — шанаваць родную мову", "Гісторыя Беларусі ў мастацкіх вобразах і партрэтах", "Францішак Скарына і яго час", "Кастусь Каліноўскі і студзеньскае паўстанне 1863 года", "Медальернае мастацтва Беларусі",... З гэтымі выставамі пабываў у розных кутках Беларусі і за мяжой — у Расіі, ЗША.

У маёй калекцыі мастацкіх твораў зараз больш за 3 тысячы адзінак. Міністэрства культуры Беларусі прысвоіла гэтым зборам першую катэгорыю і права экспаніравацца на любых выставах, неадназразова я звяртаўся ў дзяржаўныя ўстановы, напрыклад, у Беларускі дзяржаўны універсітэт, з прапановай зрабіць там экспазіцыю гэтых твораў. Тое-сёе зрабілі, але потым шмат што прапала. Чаму? Таму што калі творы проста дорыш, то яны нічога не вартыя, іх ніхто не ахоўвае.

Гэта потым я стаў больш разумнейшым: калі перадаваў 184 мастацкія творы, прысвечаныя Ф. Скарыне, Гомельскаму дзяржаўнаму універсітэту для музея-лабараторыі імя Францыска Скарыны, то я іх ацаніў, хоць і на сімвалічную суму. І цяпер яны захоўваюцца як належыць каштоўнасцям.

Доўгі час я марыў стварыць музей выяўленчага мастацтва. І толькі калі я стаў уладальнікам спадчыны — маёмасці маіх бацькоў у Старых Дарогах, я пачаў рабіць там прыбудовы для арганізацыі музея. У снежні 1999 года адбылося афіцыйнае адкрыццё першай яго чаргі. Пасля была другая чарга, потым — трэцяя, чацвёртая... Адным словам, за гэтыя тры гады я зрабіў чатыры двухпавярховыя будынкі — восем экспазіцыйных залаў плошчай больш за 500 квадратных метраў. На ёй размешчана больш за 1200 твораў. Для прыкладу, на плошчах Нацыянальнага мастацкага музея знаходзіцца 700 твораў. Нам жа прыйшлося ісці па шляху больш шчыльнага размяшчэння экспанатаў. Напрыклад, у Алейнай зале размешчана экспазіцыя "Гісторыя Беларусі ў мастацкіх вобразах і партрэтах", дзе ёсць выявы ўсіх полацкіх князёў, вялікіх князёў, гетманаў і дзяржаўных дзеячаў ВКЛ — тых, хто адстойваў незалежнасць нашай краіны. Далей, мы прадстаўляем партрэты дзеячаў нацыянальнага Адраджэння "нашаніўскага" перыяду — каля 70 твораў. У музеі ёсць спецыяльная зала, прысвечаная дзеячам беларускага замежжа, я ўпэўнены, што беларуская культура стваралася не толькі на тэрыторыі нашай Бацькаўшчыны, але і за яе межамі. Такой выставы няма нават на ўсёй постсавецкай прасторы.

У экспазіцыі музея знаходзіцца каля 600 медалёў. Гэта унікальны збор. У ім ёсць творы медальернага мастацтва з срэбра, бронзы, сілуміну, шкла. Шкляныя медалі, дарэчы, лічацца больш каштоўнымі нават за срэбныя, бо работа з гэтым матэрыялам лічыцца вельмі тонкім мастацтвам. Зноў жа для параўнання скажу, што ў Нацыянальным мастацкім музеі толькі 24 медалі, і тыя з гіпсу. Толькі адзін пералік тэм нашых медалёў можа выклікаць захапленне: у экспазіцыі ёсць творы медальернага мастацтва, прысвечаныя Л. Сапегу, К. Каліноўскаму, крыжу Еўфрасінні Полацкай, ордэн Гонар Айчыны, медалі, прысвечаныя паўстанням Т. Касцюшкі, К. Каліноўскага, медалі, якія адлюстроўваюць этнаграфічныя святы беларусаў і мастацкія выставы...

У нашым музеі ёсць тое, чаго няма ў дзяржаўных — зала графікі. Праз графічныя творы таксама падаецца гісторыя Беларусі. Пасол Францыі, які наведаў наш музей, выказаў думку пра падобнасць нашых нацыянальных менталітэтаў: "Вы ж такія, як і мы, французы — калі што, дык хапаемся за шпагу ці шаблю!"

Акрамя гэтага, музей прапануе пазнаёміцца з перыядам "Маладой Беларусі", ёсць асобныя экспазіцыі, прысвечаныя М. Багдановічу, К. Каліноўскаму, Ф. Скарыне, унікальны збор мастацкіх твораў мастакоў Заходняй Беларусі: Сеўрука. Сергіевіча, Драздовіча... Мы прапануем пазнаёміцца і з партрэтамі духоўных дзеячаў усіх веравызнанняў, што спрыялі адраджэнню нашай духоўнасці, беларускасці і незалежнасці.

Аднойчы я вырашыў, што на тэрыторыі музея можна размясціць і помнікі. Цяпер іх там восем — помнік крыжу Еўфрасінні Полацкай, героям Грунвальдскай бітвы, змагарам за родную мову (праўда, ён знаходзіцца ў стадыі завяршэння), бацьку і сыну Багдановічам, Анатолю Бярозку, Ларысе Геніюш і Міколу Улашчыку.

Наведвальнікам нашага музея я распавядаю пра дзеячаў нацыянальнага адраджэння і прапаную пазнаёміцца з іх творамі: духоўнай літаратурай, газетамі, часопісамі. Нават ёсць творы Платона па-беларуску ў перакладзе з грэчаскай мовы Яна Пятроўскага! Акрамя гэтага, мы маем падпіскі літаратурнага зборніка "Конадні", усе нумары навуковага часопіса БІНІМ "Запісы", успаміны...

Музей у Старых Дарогах — плён усяго майго жыцця. Але ён не мог бы стаць явай, калі б мне не дапамагалі сябры. Я вельмі ўдзячны тым мастакам, якія дарылі свае творы. А гэта такія вядомыя творцы, як Л. Шчамялёў, А. Кашкурэвіч, А. Марачкін, М. Купава, Я. Кулік, браты М. і.У. Басалыгі, П. Драчоў і іншыя. Шмат твораў ахвяравалі мне мастакі С. Герус, А. Петрухна, 150 палотнаў якога занялі цэлую залу і 200 знаходзіцца ў запасніках. І, зразумела, хачу выказаць словы ўдзячнасці тым мастакам, якія дапамагалі рабіць экспазіцыю — сябрам клуба "Спадчына" А. Цыркунову і А. Шатэрніку, з якімі заўсёды знаходзіў паразуменне...

Мяне часта пытаюць пра тое, адкуль у мяне сродкі на гэты музей. Скажу адно: ад дзяржавы, на жаль, я не атрымаў ні капейкі. Але вельмі ўдзячны старадарожскім уладам, якія не чыняць перашкод. Фінансава дапамагае мая дачка Святлана. Калі ж я быў у ЗША, то і сам зарабляў грошы, якія пайшлі выключна на справу пабудовы музея. За гэтыя чатыры гады ў мяне не было ні дня адпачынку.

Шмат чаго іншага хочацца ажыццявіць у рамках музея ў Старых Дарогах. На велізарным камяні-помніку М. Улашчыку ўсталяваць дошку з іменамі 80 беларускіх гісторыкаў, што вярталі гістарычную памяць народу Беларусі, ад А. Кіркора да М. Ермаловіча, якому хачу прысвяціць асобны надпіс: "Гэтага гісторыка народ чакаў чатыры стагоддзі". Мару пра ўсталяванне помніка Лявону Баразне, пра помнік дзеячам духоўнага адраджэння Беларусі ўсіх хрысціянскіх канфесій, ідэю якога падтрымаў экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Філарэт...

**Запісаў**
**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# "Рок-каронай" адзначаны ...

Сёлета ўрачыстае адкрыццё "Рок-каранацыі-2001" адбывалася ў канцэртнай зале "Мінск" пад чароўныя гукі беларускай дуды і колавай ліры: сваім выканаўчым майстэрствам ігры на гэтых інструментах здзіўляў слухачоў гурт старажытнай музыкі "Стары Ольса" Зміцера Сасноўскага. Арганізатары імпрэзы — выдавецкая фірма "Каўчэг" у мінулым годзе выпусціла ў свет аж два альбома гурта "Стары Ольса."

А вось гонар стаць першымі намінантамі "Рок-каранацыі-2001" выпаў на долю мінулагодняга ўладальніка "Рок-кароны-2000" — гурта "NRM". "Энэрэмшчыкі", што былі апрануты па "рамштайнаўскай" модзе — ў будаўнічыя каскі і камбінезоны — прапанавалі сваім прыхільнікам некалькі нумароў са свайго будучага альбома. Стала відавочна, што новая праца самага папулярнага гурта Беларусі абяцае быць глыбокай па задуме, хітовай па мелодыцы і супер-сучаснай па аранжыроўкам і гучанню.

Фінансавыя цяжкасці і праблемы на Беларускім тэлебачанні негатыўна адбілася на колькасці айчынных відэа-кліпаў. Таму амаль без ваганняў "Рок-карона" ў намінацыі "Лепшы відэа-кліп" была аддадзена гурту "Палац" за іх кліп на песню "На турэцкіх палях", што вельмі актуальна быў у ратацыі на БТ.

У намінацыі "Лепшыя тэксты" "карона" была прысуджана знанаму беларускаму паэту Леаніду Дранько-Майсюку за цыкл сатырычных твораў, музыку да якіх стварыў вядомы мінскі музыка Зміцер Вайцюшкевіч. Творчы тандэм прафесійнага паэта і маладога кампазітара забяспечыў іх сумеснаму праекту "Цацачная крама" слухацкую прыхільнасць і мастацкую арыгінальнасць.

Гэтая акалічнасць не ў апошнюю чаргу спрыяла факту прызнання Зміцера Вайцюшкевіча "Лепшым музыкантам года", а музычны праект "Цацачная крама" быў адзначаны ў намінацыі "Традыцыя і сучаснасць".

У намінацыі "Адкрыццё года" музычныя крытыкі, арганізатары імпрэзы "Рок-карону" аддалі гурту "Impett". Яго салістка Дана Жвалік была ганараваная пачэсным званнем "Рок-князёўна". Чакаем ад новаспечанай лаўрэаткі яскравых хітоў, кшталту таго, што мы ведаем пад назвай "Зусім няпроста"...

Асобнымі прызамі былі адзначаны гурт "Зьніч" і BMAgroup, за ўнёсак у ажыццяўленне праекта беларускамоўнай экстрэмальнай музыкі "Hard Life — Heavy Music" і журналіст Вітаўт Мартыненка, якому быў уручаны прыз "Радыё Палёнія" за развіццё беларуска-польскіх музычных сувязяў.

Лідэр гурта "Крама" Ігар Варашкевіч прымаў віншаванні і "карону" за перамогу ў намінацыі "Лепшы альбом", якім быў прызнаны іх новы дыск "Хавайся ў бульбу". А песню "Падае дождж" зала вітала стоячы, узяўшыся за рукі. Брава "Крама"!

Галоўная ж інтрыга разгарнулася, як заўсёды, вакол самай галоўнай намінацыі — "Лепшы гурт ці выканаўца". І вось Ігар Варашкевіч, якому даручылі абвясціць уладальніка "Рок-кароны-2001", ускрывае канверт і аб'яўляе: "Алесь Суша і супольны праект "Я нарадзіўся тут"!. Расхваляваны Алесь прымае галоўную "карону" і дзячыць слухачам, музыкам, крытыкам, арганізатарам імпрэзы за такую высокую адзнаку яго працы.

І сапраўды, уладальнік буціка "Каміла" Алесь Суша фінансава дапамог запісаць і выдаць такія дыскі, як "Сьвяты Вечар" ды "Я нарадзіўся тут", што шырока прэзентаваліся ў лепшых канцэртных залах, маюць устойлівы пакупніцкі попыт. Да таго ж, Алесь Суша з'яўляецца генератарам ідэй для ажыццяўлення новага супольнага праекта — двайнога альбома "Павей, вецер" з творамі беларускіх рок-музыкантаў на вершы Уладзіміра Караткевіча. На "Рок-каранацыі—2001" гэты праект Алеся Сушы і яго сяброў прадстаўляў гурт "Нейра Дзюбель", музыкі якога вельмі эмацыянальна выканалі песню з гэтага альбома — "Скрыпка дрыгвы". Думаю, Уладзіміру Сямёнавічу спадабаўся б гэты альбом на яго вершы. Прынамсі, з другога праслухоўвання!

На завяршэнне гэтых нататак адзначым адну вельмі важную акалічнасць — усе ўладальнікі "Рок-карон-2001" — беларускамоўныя артысты. І гэта настолькі сімптаматычна, што Таварыству беларускай мовы імя Ф.Скарыны не грэх бы штогадова ўручаць на "Рок-каранацыі" традыцыйны прыз "За адданасць Беларускаму Слову".

**А. М.**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІК
**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Намеснік галоўнага рэдактара**
**Віктар ШНІП**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**





**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**
**адказны сакратар — 284-8204**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 1568
Нумар падпісаны ў друк 15.08.2002 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1882

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12